№ 1-2 (77)
13 студзеня
1997 г.

# НАША НІВА

беларуская газэта. Заснаваная ў 1906 г. у Вільні. Адноўленая тамсама ў 1991 г. як штомесячнік. З 1 сакавіка 1996 г. выходзіць у Менску

**пасьля зімы настае вясна, за вясною прыходзіць лета, затым пачынаецца восень, якую зьмяняе зіма, па зіме надыходзіць вясна, сьледам ідзе лета, потым восень, што саступае сваё месца зіме, зіма памірае і нараджаецца вясна, вясна перарастае ў лета, лета сустракаецца з восеньню, восень згасае ў зіму, зіма сканчаецца і пачынаецца вясна, за вясною прыходзіць лета, затым пачынаецца восень, якую зьмяняе зіма, па зіме надыходзіць вясна, сьледам ідзе лета, потым восень, што саступае сваё месца зіме, зіма памірае і нараджаецца вясна, вясна перарастае ў лета, лета пераспявае ў восень, восень замятае зіма, зіма саступае вясьне, за вясною прыходзіць лета, затым пачынаецца восень, якую зьмяняе зіма, па зіме надыходзіць вясна, сьледам ідзе лета, потым восень, што саступае сваё месца зіме, зіма памірае і нараджаецца вясна, вясна перарастае ў лета, лета красуе ў восень, восень згасае ў зіму, зіма выклікае вясну, вясна становіцца летам, лета дагарае ў восень, восень становіцца зімою, за зімою — вясна, за вясною прыходзіць лета, затым пачынаецца восень, якую зьмяняе зіма, па зіме надыходзіць вясна, сьледам ідзе лета, потым восень, што саступае сваё месца зіме, зіма памірае і нараджаецца вясна, вясна квітнее**

Каляндар

## Год Перуна



450 гадоў таму нарадзіўся Крыштап Радзівіл (1547 —20.11.1603) сын віленскага ваяводы, канцлера і гетмана Мікалая Радзівіла Рыжага, за свой ваенны талент празваны Перуном. Службовую кар'еру пачаў у 1566 г. з пасады крайчага, потым быў падчашым, гетманам дворным, гетманам польным, падканцлерам і адначасова кашталянам троцкім, а 18 красавіка 1589 г. стаў гетманам вялікім. Як гетман польны ўдзельнічаў ва ўсіх ваенных паходах. Будучы кальвіністам, у саюзе з князем К.Астроскім выступаў супраць Берасьцейскай царкоўнай уніі.

Новы каляндар "НН" на 1997 год — на старонцы 8.

Уладзімер Арлоў

## Пяць трупаў у басэйне

Гэтай зімою Уладзімер Арлоў піша пра Афрыку: пра вярблюдаў, Сахару і краіну Туніс.

... Табе захочацца выйсьці ў сахарскую ноч, апусьціцца, забыўшыся на зьмяю і скарпіёнаў, на цёплы пясок і падумаць пра тое, што кожнае тваё падарожжа непрыкмет ператвараецца ў паломніцтва да той краіны, якая і ёсьць сапраўднай фатамарганай, бо матэрыялізуецца адно тады, калі ты пакідаеш яе, і зьнікае, растае ў паветры, як толькі ты вяртаесься...

На старонцы 10.

Генадзь Сагановіч

## CONTRA TYRANNOS

Гэты свой артыкул Г.Сагановіч адрасаваў дэпутатам Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь XIII скліканьня. Гісторык прыгадвае, што і ў мінуўшчыне ў Беларусі бывалі палітычныя сытуацыі, падобныя да сёньняшняй. Аргумэнты колішніх беларускіх палітыкаў

– у артыкуле на старонцы 4.

## По той бок банальнасьці

Выстава Ігара Саўчанкі і Надзеі Кароткінай у менскай мастацкай галерэі "6-я лінія"

– на старонцы 9.

Шуфляда

# Паўстаньне ў ГУЛАГу

*24 студзеня 1942 году ў суботу каля 16 гадзінаў у лягеры "Лесарэйд" (Варкутлаг), у шасьці кілямэтрах ад сяла Усьць-Уса ў Комі АССР выбухнула паўстаньне. Праўду пра гэтую трагічную падзею мы дазналіся зусім нядаўна...*

У Комі АССР перад вайною колькасьць зьняволеных удвая пераўзыходзіла цывільнае насельніцтва. Лягерны рэжым рабіўся ўсё больш жорсткім. Гэта перш за ўсё біла па зьняволеных з 58-м артыкулам ("контрарэвалюцыйныя злачынствы").

Лягер "Лесарэйд" меў невялікую вытворчасьць і колькасьць зьняволеных. Усяго іх тут налічвалася 193 плюс 27 вольнанаёмных. Дзьве трэці былі асуджаныя з 58-м артыкулам. Працавалі на нарыхтоўцы драўніны для рудастойкі, шпалаў.

Менавіта тут утрымліваўся былы наркам асьветы Беларусі Ул.Піваварaў, які патрапіў сюды пасьля двухгадовага катаваньня ў менскай унутранай турме НКВД. На абедзьвюх руках у яго каты вырвалі пазногці...

Ажно да апошняга часу імя гэтага чалавека катэгарычна забаранялася ўспамінаць зь любой нагоды. Першая згадка пра яго зьявілася ў 1994-м, у гісторыка-дакумэнтальнай кроніцы "Памяць. Рагачоўскі раён":

"Піваварaў Уладзімер Іванавіч (1904-1941), наркам асьветы БССР. Нарадзіўся ў 1904 у вёсцы Сямёнаўка Рагачоўскага раёна. Член КПСС з 1931. У 1924 пасьля заканчэньня Рагачоўскага пэдагагічнага тэхнікуму працаваў настаўнікам, дырэктарам сямігадовай школы ў Мазырскім раёне. У 1930 закончыў фізыка-матэматычны факультэт БДУ. У 1930-1932 — асьпірант АН БССР. У 1935 закончыў асьпірантуру пры АН СССР. Абараніў кандыдацкую дысэртацыю па разьдзелу "Геафізыка". У наступныя гады працаваў старэйшым навуковым супрацоўнікам фізыка-тэхнічнага інстытуту АН БССР. З 29 кастрычніка 1937 —наркам асьветы БССР. 2 ліпеня 1938 арыштаваны, 28 студзеня 1940 выключаны з членаў КП(б). Рашэньнем Вайсковай калегіі Вярхоўнага суда СССР ад 29 траўня 1940 асуджаны на 15 гадоў папраўча-працоўных работ. Памёр 28 жніўня 1941. Рэабілітаваны 25 сьнежня 1954".

Пра факты масавага супраціву рэжыму ГУЛАГу дагэтуль пісалася няшмат. Але ж менавіта ўвосень 1941 году ў знак пратэсту супраць дзейнасьці лягернай адміністрацыі адбыўся шэраг першых як стыхійных, так і арганізаваных выступаў зьняволеных...

Увосень 1941 году ў "Лесарэйдзе" ўзьнікла змова. Паводле матэрыялаў сьледзтва НКВД і лягернай адміністрацыі, яго ініцыятарамі сталі так званыя "трацкісты" і "эсэры". Ідэйнымі завадатарамі трэба лічыць Ул.Піваварава і былога кіраўніка "Комілесу" А.Макеева. Гэтыя двое ўзяліся ажыцьцяўляць змову, шукаць аднадумцаў. Першы раз на арганізацыйны сход змоўнікі сабраліся ў сьнежні 1941 году. На іх думку, за паўстанцамі павінны былі пайсьці і галодныя калгасьнікі. Зьбіраліся яшчэ некалькі разоў. Стварылі штаб паўстаньня і прызначылі ягоны тэрмін: студзень 1942 году.

Паўстанцы выпрацавалі такую праграму дзеяньняў:

1. Вызваленьне зь лягераў і турмаў усіх зьняволеных.

2. Далучэньне да паўстанцаў працоўных і спэцперасяленцаў, а таксама мясцовага насельніцтва.

Працяг на старонцы 7.





# Закладнікі вечнасьці

Пачынаючы новы год існаваньня "НН" у абноўленым выглядзе, скажам два словы пра год мінулы і тыя зьмены ў выданьні, якія непазьбежныя сёлета.

Увесь мінулы год, пачынаючы з 1 сакавіка "НН" выходзіла штотыднёва і рэгулярна інфармавала чытачоў пра найважнейшыя падзеі ў краіне ды за мяжою. Ня варта нагадваць, які гэта быў спалітызаваны ды насычаны жарсьцямі год. Усё гэта, гэтыя жарсьці непазьбежна траплялі ў тыднёвік ды рабіліся ў ім дамінантаю. Так адбывалася зусім аб'ектыўна — ад пэрыядычнасьці, ад памкненьня быць на вастрыі часу, выскачыць урэшце на газэтны рынак краіны, ад мінімальных сілаў ды сродкаў.

У кожным разе, мінулы год стаў найкаштоўнейшым досьведам для нас, як, бадай, і для ўсёй краіны ды ўсёй беларушчыны.

1996-ы палітычны скончыўся разам з палітыкай. Дакладней, сама палітыка ў краіне пераўтварылася ў памфлет. Дагасае жывы газэтны рынак. І сёньня працягваць тую канцэпцыю, якая была зададзеная летась, — бясплённая справа. Бясплённая ў тым сэнсе, што ў мітусьні сучаснае палітыкі згасаюць апошнія крыніцы нашых жаданьняў і нашага чалавечага аптымізму. Аптымізм кліча ў іншыя сфэры. Вы ня знойдзеце мяне ў мільгаценьні будняў, — кажа ён, — у "карцінках" пікетаў і ў штабах апазыцыі. Вас карабаціць ад тае прафанацыі ўлады, якая нахабна ўсталявалася ў краіне? Дык адзінае, што я магу вам параіць, адзінае, у чым вы знойдзеце мяне — гэта ўсьведамленьне вечнага. Ня будзьце закладнікамі мітусьні, а будзьце закладнікамі вечнасьці — і тады, працуючы на вечнасьць, вы будзеце працаваць на самых сябе, на Беларушчыну і на сваіх дзяцей. Зрабеце так, каб верш Максіма Багдановіча альбо словы Льва Сапегі сталі для вас больш актуальнымі за словы дыктатара або хама.

Ранá ці позна ўлада зьмяняецца, а нашыя аўтарытэты, нашыя ідэалы застаюцца. І мы не павінны зацiскаць сваё існаваньне, свае мары й памкненьні ў рамкі чыесьці палітычнае кар'еры. Там, у гэтых рамках, няма ані сьвятла, ані маралі, ані культуры. Там няма крыніцы нашых жаданьняў і нашага аптымізму.

У 1996-м "НН" прысьвяціла сябе часу. У 1997-м мы адчулі патрэбу кіравацца вечнасьцю. Вось у гэтым і палягае глябальная зьмена выгляду выданьня.

Са старонак газэты ня зьнікне нічога, да чаго прызвычаіліся нашыя чытачы. Хіба што праграмай тэлевізіі ды пабытовай інфармацыяй мы вырашылі ахвяраваць. Дакладней, вымушаныя ахвяраваць, бо такі дадатак як "Інфарматар" патрабуе вялікіх інвэстыцыяў. Мы ж толькі паказалі сабе і чытачу, што такі дадатак у межах "НН", калі ня сёньня, дык з часам у прынцыпе магчымы. Ня зьнікне з нашых старонак і палітыка — у выглядзе канцэптуальных аналізаў і суб'ектыўных рэфлексіяў. Зьнікне штодзённая інфарматыўнасьць, якая і так не ўласьцівая для тыднёвіка. Але тэмы праваабароны, свабоды слова і падобныя, як і эканамічныя ды міжнародныя агляды — усё гэта застанецца.

Галоўнае ж месца ў газэце будуць займаць гістарычныя, культурныя, літаратурныя матэрыялы. Менавіта яны для нашых чытачоў найважнейшыя, — гэта засьведчылі вынікі леташняе анкеты "НН". Дзеля таго, каб палепшыць адбор ды падвысіць якасьць такіх матэрыялаў, нам давядзецца зьменшыць пэрыядычнасьць. Па сутнасьці замест штодзённай газэты раз на тыдзень (чым была "НН" у 1996-м), нашы падпішчыкі будуць атрымліваць месячнік раз на два тыдні.

Няма радасьці казаць пра нашыя праблемы. Варта хіба заўважыць, што сёлета "НН" — цалкам самафінансаванае выданьне. Гэта значыць, што мы будзем выбудоўваць адмысловую сетку распаўсюджаньня, вышукваць свайго чытача. Магчыма, вы, нашыя чытачы, нам у гэтым дапаможаце. А самае галоўнае — пішыце. Вашых лістоў на старонках газэты у новым годзе таксама стане болей.

Рэдактар

# Расейскі ПЭН-цэнтар бароніць С.Адамовіча

Расейскі ПЭН-цэнтар накіраваў у Віцебскі абласны суд і адвакату Славаміра Адамовіча сп. Паганяйлу ліст наступнага зьместу:

Паважаны Георгі Пятровіч!

Просім Вас абвясьціць у судзе пункт погляду Расейскага ПЭН-цэнтру з мэтай далучэньня нашага пратэсту да матэрыялаў справы.

*З павагай Прэзыдэнт ПЭН-цэнтру Андрэй Бітаў і генэральны дырэктар Аляксандар Ткачэнка.*

Ад імя і на даручэньне пісьменьнікаў Расейскага ПЭН-цэнтру, міжнароднай арганізацыі па ахове правоў пісьменьнікаў і журналістаў, выказваем свой пратэст з прычыны суда над паэтам Славамірам Адамовічам, які вось ужо амаль год знаходзіцца ў турэмным зьняволеньні КГБ Беларусі. Перш чым пісаць гэты пратэст, мы пазнаёміліся з творам, за які судзяць паэта.

Мы лічым, што ў вершы "Убей президента" няма закліку да канкрэтнага дзеяньня супраць канкрэтнай асобы і ўвесь верш напісаны ў стылі гратэску, паэтычнага пэрфомансу. У канцы 20-га стагодзьдзя час нарэшце зразумець, што мастацкае слова, паэтычны вобраз ня можа быць прычынай для перасьледу пісьменьніка альбо паэта.

У зьвязку з гэтым мы заяўляем, што парушана адно з асноўных правоў і свабод чалавека — права на свабоду слова і самавыяўленьня. Мы катэгарычна настойваем на спыненьні крымінальнай справы супраць Славаміра Адамовіча і лічым, што гэты ганебны працэс цалкам дыскрэдытуе судовую ўладу Беларусі перад тварам міжнароднай грамадзкасьці. Мы зробім усё, каб надаць сусьветны розгалас справе суда над паэтам і будзем шляхам звароту да міжнародных грамадзкасьці і арганізацыяў дабівацца яго вызваленьня і спыненьня справы.

*З павагай Дзьмітрый Ліхачоў, Андрэй Бітаў, Андрэй Вазьнясенскі, Леў Разгон, Бэла Ахмадуліна, Тацяна Бек, Булат Акуджава, Фазіль Іскандэр, Анатоль Прыстаўкін, Аляксандар Ткачэнка, Юна Морыц, Канстанцін Кедраў, Ядгар Обід, Аркадзь Ваксбэрг*

Масква, 8 студзеня 1997 г.




# З кронікі беларускай калёніі ў Воршы і Барані

Для тых, хто ня ведае: Барань — горад-спадарожнік Воршы, аб'яднаны зь ёю ў адну адміністрацыйна-эканамічную адзінку. Беларуская калёнія ў Воршы і Барані існуе па-за межамі нейкіх палітычных ці грамадзкіх арганізацыяў без падтрымкі з боку дзяржавы і намагаецца захаваць беларускае жыцьцё ў гэтых гарадах. На ўсе згаданыя імпрэзы каляністы трацілі ўласныя грошы пры невялічкай (90 тысяч БРБ) падтрымцы аршанскага Таварыства Беларускай Мовы.

19 сьнежня 1996 г. у аршанскім касьцёле адбылася прэм'ера відэакліпа на выканаўцы ўласных песень зь Віцебску Аўгена Савельева. Было каля дзясятка калянiстаў.

20 сьнежня. Каля дваццаці каляністаў, згуртаваўшыся, зьезьдзілі на канцэрт Багдана Андрусішына ў Віцебск. На канцэрт прайшлі ўсе, але паразмаўляць з Данчыкам не давялося.

24-25 сьнежня. Каляністы ўдзельнічалі ў калядаваньні, канцэртах ды спэктаклях пры Аршанскім касьцёле з нагоды сьвята Божага нараджэньня.

26 сьнежня. Дзень нараджэньня каляністкі, адной з заснавальніц Аб'яднанай Дэмакратычнай Партыі Беларусі Галіны Сініцынай. Адсьвяткавалі яго зь ежай, сьпевамі і падарункамі.

28 сьнежня. Наладзілі навагодняе сьвята для адзінае беларускае клясы ў рэгіёне. Гэта 5 "В" у 18-й Аршанскай сярэдняй школе. Былі гульні, сьпевы і падарункі. Астатнім клясам заставалася толькі пазайздросьціць.

30 сьнежня. Выйшлі ў лес і зрабілі сьвята самім сабе з вогнішчам, сьпевамі і гульнямі.

1 студзеня 1997. Новы Год па Грынвічу сустрэлі разам большасьцю калёніі. Пітва, ежы, сьпеваў і тэмаў для размоваў хапіла.

2 студзеня. Да Воршы дайшоў калядны нумар "Нашай Нівы" са шкадаваньнем аб тым, што аршанцы не далі адрасу, на які трэба дасылаць дапамогу беларускай клясе. Вырашылі такі адрас даць:

*УВАГА!*

*211011 Аршанскі р-н, г. Барань, вул. Корбана д. 13 кв. 6. Шэпелеву Генадзю*

Падрыхтаваў Андрэй Мельнікаў

Архіў Найноўшай Гісторыі

# Charta-77

*"Джон Ленан у адным інтэрвію сказаў, што сямідзесятыя гады — проста гаўно. І праўда: калі мы сёньня аглядаемся на іх, — яны здаюцца нам у параўнаньні з такімі стракатымі, багатымі і прадуктыўнымі шасьцідзясятымі нейкімі ніякаватымі, як бы без стылю, без атмасфэры, без выразных духоўных і культурных зрухаў. Пасьля вялікага грамадзкага ўздыму шэсьцьдзесят восьмага году, савецкай інтэрвэнцыі і яе балючага фіналу Гусак зьмяніў Дубчака, і адразу пачаўся доўгі пэрыяд мёртвае цішыні. Партыйная ўладная намэнклятура хутка сфармавалася і правяла ўсе тыя чысткі, забароны і ліквідацыі; зьнясіленае грамадзтва хутка прызвычаілася да таго, што ўсё, што было аднойчы і назаўсёды абвешчана немагчымым, зноў стала магчымым, і сто разоў здэмаскаванае і высьмеянае дурнота зноў можа панаваць; людзі замкнуліся ў сябе і кінулі дбаць аб грамадзкіх справах. Пачалася эра выклiканай адчаем апатыі і шырокай дэмаралізацыі, пачалася эра махровай таталітарнай спажывецкай штодзённасьці. Грамадзтва было атамізавана, дробныя агмяні супраціву былі зьнішчаныя, падмануте і стомленае насельніцтва рабіла выгляд, што пра іх ня ведае, незалежнае мысьлярства і творчасьць ухіліліся ў бункер глыбокага прыватнага жыцьця".*

Доўгая цытата з успамінаў Вацлава Гавэла тым ня менш дае непараўнальна выразную карціну чэха-славацкай рэчаіснасьці тае пары. І ня толькі. Рысы, прыкметы, характар — ці не нагадваюць яны цяперашнюю сытуацыю ў адной, асобна ўзятай цэнтральна-эўрапейскай краіне?

Нам, падлеткам зь беліцкага прадмесьця Гомеля інвазія 1968 г. запомнілася ня проста радыё- і тэлекамунікатамі пра "вызваленчую зьвяздовую выправу", а таксама агульнай трывогай. Па хатах бегалі ваенкамацкія кур'еры з позвамі нашым бацькам. Чырвоная дыяганаль на паперцы рэзала вочы крывавым папярэджаньнем. Бацькаў хутка адпусьцілі, маскоўскім інтэрнацыяналістам палкоў хапіла. Абышлося бяз масавага ўдзелу беларусаў. Як і ў XV ст., калі Казімір Ягайлавіч вырашыў падацца разам зь немцамі на падаўленьне гусіцкага руху, а ягоныя пляны (паводле сьведчаньня чэскага гісторыка Францішка Палацкага) сарвала нежаданьне ліцьвіноў удзельнічаць у авантуры. У 68-м супраць інвазіі пратэставалі ў Беларусі адзінкі, сярод якіх Аляксандар Кукабака.

Сацыялізм з брэжнеўскім тварам ужо з 1969 г. справакаваў спад вытворчасьці ў праскім бараку сацлягера, крона згубіла канвэртабэльнасьць. Але, трэба прызнаць, у параўнаньні з СССР невялікая краіна ўвесь час заставалася сытай і абагрэтай. "Кілбаса дзясяткаў гатункаў і без чаргі!" — апавядалі з захапленьнем саўковыя турысты... Чаго ж не хапала ім, адсунутым у андэграўнд элітным інтэлектуалам?

У сваёй кнізе пад сымбалічнай назвай "Сіла бясьсільных" Гавэл піша пра пачатак "Хартыі-77": "Духоўную атмасфэру для гэтага выступленьня не падрыхтавала ніводная непасрэдна палітычная падзея: яе падрыхтаваў судовы працэс над маладымі музыкантамі з асяродзьдзя гурта "The Plastic People". Працэс, у якім сышліся ў супрацьстаяньні ня дзьве палітычныя сілы або канцэпцыі, а два разуменьні жыцьця: на адным баку стэрыльны пурытанізм посттаталітарнага істэблішмэнту, на другім баку невядомыя маладыя людзі, якія не хацелі нічога іншага як толькі жыць у праўдзе: граць музыку, якая ім падабаецца, сьпяваць пра тое, чым яны сапраўды жывуць, жыць свабодна, годна і па-братэрску. Гэтыя людзі мелі ўсе магчымасьці, каб адаптавацца да існага ладу, прыняць "жыцьцё ў хлусьні" і жыць спакойна і бясьпечна. Яны вырашылі, аднак, інакш..."

Забарона канцэртаў скончылася ў 1976 г. арыштам 19 маладых рок-музыкаў, якіх афіцыйная прапаганда трактавала як хуліганаў, наркаманаў і лайдакоў. Рыхтавалася судовая расправа. Гавэл сустрэўся з сваім былым творчым апанэнтам (!) філёзафам Іржы Немцам, яны абмяркавалі праблему і пачалі дзейнічаць. Пэтыцыя ў абарону арыштаваных спачатку выклікала недавер, але хутка знайшла нечаканы шырокі водгук. "Была то пара "стомы ад стомы", пара, калі самыя розныя асяродзьдзі мелі ўжо досыць ізаляцыі" (зноў з успамінаў Гавэла). Вядомыя чэскія пісьменьнікі зьвярнуліся з адкрытым лістом да Генрыха Бёля. Супраць працэсу

# КУЛЬТУРНАЯ ПАДЗЕЯ МІНУЛАГА ГОДУ

*Гэта ня рэйтынг. Гутарка ідзе пра падзею, якая запомнілася. На жаль, некаторым вядомым у Беларусі людзям, да якіх карэспандэнт "НН" зьвяртаўся з такім пытаньнем, самое пытаньне падалося або несур'ёзным, або нават кашчунным. Маўляў, год быў чыста палітычным, цяжкім, выключна адмоўным. Але ж мы і самі ствараем кожны свой год, і ад нас таксама залежыць, што мы перажылі — нейкую паразу ці год уласнага жыцьця...*

**МЕЧЫСЛАЎ ГРЫБ,**
**ДЭПУТАТ ВЯРХОЎНАГА САВЕТУ:**

У мінулым годзе я амаль ня меў часу, каб спрычыняцца да культурных падзеяў. Крыху запомніўся фэстываль "Славянскі Базар", прыезд у Менск Мансэрат Кабальле... Алімпійскія гульні ў Атлянце — таксама вельмі важная падзея.

**МІХАЛ АНЕМПАДЫСТАЎ,**
**МАСТАК, ПАЭТ, МЭНЭДЖЭР КАМПАНІІ "СТАРЫ СЬВЕТ":**

Прыемныя асабіста для мяне падзея — выхад у сьвет альбома NRM "Одзірыдзідзіна", а таксама запіс новага альбому "Новага Неба", які называецца "Мая Краіна". Што да агульнай сытуацыі ў Беларусі, мяркую, што паступова ў краіне пачнецца сыход дзейных людзей: альбо за межы культурнага жыцьця, альбо ў эміграцыю. На жаль, ня йснуе такая зьява, як моцная беларуская эміграцыя — альтэрнатыўная прастора, у якой магла б стварацца незалежная беларуская культура. У будучыню я гляджу, прымружыўшы вочы.

Я не магу прыгадаць станоўчую падзею з культурнага жыцьця Беларусі ў мінулым годзе, у той час як адмоўных так шмат, што ня хочацца пералічваць усе. Назаву апошнюю — рэфэрэндум 24 лістапада.

**СЬВЯТЛАНА АЛЕКСІЕВІЧ,**
**ПІСЬМЕНЬНІЦА, ПУБЛІЦЫСТ, ЛЯЎРЭАТ ПРЭМІІ МІЖНАРОДНАГА ПЭН-КЛЮБУ 1996 Г.:**

Галоўны вынік культурнага жыцьця Беларусі ў мінулым годзе —параза інтэлігенцыі. Наша агульная параза. Мы дазволілі А.Лукашэнку здаць нас у архіў.

Што да станоўчых падзеяў, мяркую, іх варта пакінуць для сямейнага альбому.

**УЛАДЗІМЕР АРЛОЎ,**
**ПІСЬМЕНЬНІК:**

— Зь леташняга жыцьця краіны запомнілася непрысуджэньне дзяржаўнай літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы паэту Міколу Купрэеву, а таксама нявыхад у сьвет зборніка вершаў Ларысы Геніюш.

Што да падзеяў у прыватным культурным жыцьці, прыемна, што ня гледзячы на тое, што адно зь дзяржаўных выдавецтваў спыніла выданьне маёй кніжкі апавяданьняў па гісторыі Беларусі "Адкуль наш род", кніжка пабачыла сьвет. Гэта здарылася дзякуючы руплівасьці незалежнага выдавецкага цэнтру "Бацькаўшчына". Спадзяюся, тое ж самае адбудзецца зь іншымі маімі кніжкамі, якія, мяркую, наўрад ці змогуць выйсьці ў дзяржаўных выдавецтвах.

**ЛЯВОН ВОЛЬСКІ,**
**ЛІДАР РОК-ГУРТА NRM, ДЫ-ДЖЭЙ РАДЫЁ 101,2, ЛІТАРАТАР, МАСТАК:**

Згадваюцца адныя адмоўныя падзеі. У зьвязку зь мінулым годам узьнікае адчуваньне татальнага разбурэньня беларускай культурнай прасторы.

Асабіста балючым для мяне стала закрыцьцё Радыё 101,2. Што да ўласнай дзейнасьці, радасна, што гурт NRM здолеў запісаць і выдаць новы альбом, які называецца "Одзірыдзідзіна". Але агульнае самаадчуваньне ня самае лепшае. Пэрспэктывы краіны і ўласнага жыцьця выглядаюць непрывабліва.

**ВАЛЯНЦІН ГРЫЦКЕВІЧ,**
**ГІСТОРЫК:**

Інфармацыйная сувязь пецярскага кола беларусаў з Бацькаўшчынай недастаткова трывалая, таму мне складана казаць аб усёй панараме беларускага культурнага жыцьця. Асабіста для мяне стаўся важным удзел у сэмінары па праблемах правоў асобы, які працаваў у Менску 29-31 траўня летась. Асабліва важна тое, што гэтая сустрэча адбылася ў вельмі гарачы час для Беларусі. Таксама лічу вельмі значнай культурнай падзеяй беларускія канцэрты Данчыка, што прайшлі ў сьнежні. Што да пецярскага культурнага асяродку, у лістападзе нашыя мастакі ладзілі выставу. Мяне гэта вельмі ўсьцешыла.

Ня гледзячы на складанасьць і нават драматызм сёньняшняй агульнаграмадзкай сытуацыі ў Беларусі, я з аптымізмам гляджу ў будучыню. За гады незалежнасьці беларускае грамадзтва атрымала моцны штуршок, які зьмяніў агульны сьветапогляд людзей, у першую чаргу моладзі. Тыя, хто сёньня пануюць у Беларусі, маюць адно мінулае. Яны могуць прыпыніць, але ня зьнішчаць стварэньне новай Беларусі.

**АЛЕГ ТРУСАЎ,**
**ДЭКАН ФАКУЛЬТЭТА БІБЛІЯТЭЧНА-ІНФАРМАЦЫЙНЫХ СЫСТЭМАЎ БЕЛАРУСКАГА УНІВЭРСЫТЭТУ КУЛЬТУРЫ, СЯБРА ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ БСДГ:**

З агульнадзяржаўных культурных падзеяў мінулага году я хацеў бы адзначыць выхад у сьвет двух беларускіх паштовых марак з выявамі Льва Сапегі й Радзівіла Чорнага. Асабліва прыемна, што наша філярыстыка адзначыла гэтыя славутыя постаці раней за палякаў і літоўцаў, якія таксама лічаць іх важнымі дзеячамі сваёй гісторыі.

У зьвязку з асабістым культурным жыцьцём вельмі задаволены тым, што на пачатку кастрычніка мне разам з калегамі ўдалося арганізаваць і правесьці вельмі важную міжнародную канфэрэнцыю, аналягаў якой не было на абшарах былога Савецкага Саюзу. Яна мела назву "Незалежная выдавецкая дзейнасьць у Беларусі. Гісторыя й сучаснасьць". На базе Беларускага Ўнівэрсытэту Культуры мы сабралі больш за дваццаць выдаўцоў. Прычым, арганізавалі выставу іхняй вытворчасьці. Былі госьці з ЗША, Польшчы, Прыбалтыкі, Расеі, іншых краінаў. Плён канфэрэнцыі — мяркуецца стварэньне незалежнай сеткі распаўсюджаньня друкаванай прадукцыі.

**ІБРАГІМ АЛЕКСАНДРОВІЧ,**
**МУФТЫЙ МУСУЛЬМАНАЎ МЕНСКУ:**

Найбліжэйшая дата, што запомнілася з культурнага жыцьця Беларусі — сьвяткаваньне юбілею Сьцяпана Александровіча, што адбылося 19 сьнежня.

Для мяне мінулы год быў вельмі плённым у маёй працы. У якасьці прадстаўніка мусульманаў Беларусі я браў удзел у важных міжнародных канфэрэнцыях, прысьвечаных праблемам ісламскага сьвету. Адна зь іх адбылася ў жніўні ў Тэгеране, другая — у кастрычніку ў Стамбуле.

У цэлым я ацэньваю мінулы год як нядрэнны. Але хацелася б, каб у будучыні мы пераадолелі цяжкасьці ў жыцьці, якія ўзмацніліся апошнім часам. Галоўная праблема мусульманаў Беларусі —нястача фінансаў. На 23 грамады існуе толькі тры мячэці. Дарэчы, адна зь іх была адчыненая ў кастрычніку летась ў Сьмілавічах.

**АЙЦЕЦ ЯН МАТУСЭВІЧ,**
**КІРАЎНІК ДЭКАНАТУ БЕЛАРУСКАЙ ГРЭКА-КАТАЛІЦКАЙ ЦАРКВЫ, ПРОТАПРАСЬВІТАР:**

Вельмі радаснай для мяне падзеяй зьявіўся выхад у сьвет чарговага, чацьвертага нумару часопіса "Унія". Таксама важнай і радаснай падзеяй сталася правядзеньне фэстывалю духоўнай музыкі "Магутны Божа", што ладзіўся летась у Магілёве. Вельмі ўсьцешна, што летась дзьве беларускія грэка-каталіцкія парафіі атрымалі ўласныя будынкі. Адзін зь іх — новая царква, пабудаваная ў Полацку ў старабеларускім стылі. Таксама трэба адзначыць асьвячэньне адной з нашых каплічак Прэфэктам Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў Ватыкану кардыналам Акілам Сыльвэстрыні.

Як і для ўсёй краіны, мінулы год быў вельмі складаны для нашай царквы. Дай Божа, каб такіх цяжкіх гадоў было меней.

**ЮРЫ ХАДЫКА,**
**ПРАФЭСАР, НАМЕСЬНІК СТАРШЫНІ БНФ:**

Самы непрыемны ўспамін з культурных падзеяў у Беларусі — аб "Славянскім Базары-96". Засталося адчуваньне вострага сораму. Гэтая імпрэза цалкам адпавядала культурнай палітыцы прэзыдэнта — нічога беларускага, суцэльнае палітыканства.

Прыемны ўспамін зьвязаны з наведваньнем маёнтка Яўгена Будзінаса, дзе ладзілася імпрэза з нагоды завяршэньня леташняга Кангрэсу ПЭН-цэнтраў. Будзінас — гэта "адзінокі воўк", які спрыяе культурнай ініцыятыве. У сябе ў Дудзічах ён стварае жывы культурны асяродак. Гэта вельмі ўсьцешна —ягонае імкненьне да захаваньня й аднаўленьня старадаўніх традыцыяў на беларускай зямлі.

Што да тэндэнцыяў, хачу адзначыць парадокс, які заўважыў на беларускім тэлебачаньні. Прафэсійны ўзровень вядучых БТ відавочна павысіўся ў параўнаньні зь мінулымі гадамі. Але пры гэтым на нашым тэлебачаньні пануе імкненьне да стварэньня "лапатнай" беларускай псэўдакультуры. Мяркую, гэта сьведчыць аб атмасфэры згодніцтва й нігілізму, у якой жыве БТ.

З сучаснай беларускай літаратурай я сутыкаюся праз газэту "ЛіМ". Прыемна адзначыць узбагачэньне тэмаў, якія прапануе штотыднёвік. Але, разам з тым, "ЛіМ" ўсё роўна, на жаль, пакідае адчуваньне пэўнай правінцыйнасьці.

**ІГАР БАБКОЎ,**
**ДЫРЭКТАР ЦЭНТРУ ЭЎРАПЕЙСКІХ ДАСЬЛЕДАВАНЬНЯЎ І КУЛЬТУРНЫХ ІНІЦЫЯТЫВАЎ, РЭДАКТАР ФІЛЯЗОФСКА-КУЛЬТУРАЛЯГІЧНАГА ЧАСОПІСА "ФРАГМЭНТЫ":**

Мяне вельмі ўразіла адбудова касьцёла на пляцы Волі. Гэта вельмі яскравы прыклад дэсавецізацыі Менску. Ня гледзячы ні на што, горад скідвае сваю савецкую вопратку.

У прыватным культурным жыцьці самае важнае — выхад "Фрагмэнтаў". А таксама знаёмства з кнігай Юліі Крысьневай "Сэнс і бязглуздзіца бунту".

Падрыхтаваў Севярын Квяткоўскі

---

выступіла група кампартыйных вэтэранаў (!!). Шакаваны рэжым паспрабаваў бараніцца дэфамацыяй. Праскія азаронкі накруцілі тэлефільм супраць "плястыкаў", выйшаў шэраг артыкулаў з "асуджам-с". Але антырокавага нюрнбэргу не атрымалася. Чатыром з музыкаў упаялі па некалькі месяцаў турмы, зь іх толькі кіраўнік гурта Іван Іроўс павінен быў даседзець рэштку ад тэрміну папярэдняга зьняволеньня. Затое ў залі суда сышліся людзі, якія зразумелі, ШТО іх зьвязвае і ШТО патрабуе ад іх салідарнасьці.

10 сьнежня 1976 г. на прыватнай кватэры адбыўся першы сход хартыстаў. Пакты аб правах чалавека служылі юрыдычным грунтам пры выпрацоўцы тэксту. На наступных двух сходах тэкст быў завершаны, выбраны тры сустаршыні: Вацлаў Гавэл, прафэсары Ян Патачка і Іржы Гаек. Пачаўся збор подпісаў, якіх да навагодніх сьвятаў сабралі 243. На кватэры Гавэла адбыўся апошні сход, гаспадар нэрваваўся, чакаючы нападу паліцыі, але ўсё скончылася добра. А 1 студзеня 1977 г. тэксты дэклярацыі "Хартыі-77" пачалі разыходзіцца па ўсёй краіне і за яе межамі.

Заснавальнікі дэкляравалі, што "Хартыя-77" – гэта вольнае, нефармальнае і адкрытае згуртаваньне людзей розных перакананьняў, розных вераў і прафэсіяў, якіх аб'ядноўвае воля бараніць правы чалавека, прызнаныя міжнароднымі пактамі; "Хартыя-77" не зьяўляецца арганізацыяй, ня мае сталых органаў і сяброўства; да яе належыць кожны, хто падзяляе яе ідэі, удзельнічае ў яе працы і падтрымлівае яе. У адозьве канстатавалася: "Дзясяткі тысячаў нашых грамадзян пазбаўленыя магчымасьці працаваць па прафэсіі толькі таму, што яны адстойваюць погляды, якія адрозьніваюцца ад афіцыйных поглядаў... У сотняў тысячаў іншых грамадзян адабраная "свабода ад страху", бо яны вымушаныя жыць у сталай небясьпецы, што калі выкажуць свае погляды, згубяць працоўныя ды іншыя магчымасьці... Незьлічоным маладым людзям забараняецца вучыцца толькі за іхнія погляды, або нат за погляды іхніх бацькоў".

У дэклярацыі адлюстроўваўся пратэст супраць парушэньняў правоў на інфармацыю, рэлігійныя перакананьні, на асабістае жыцьцё. Асобны пункт прысьвечаны свабодзе творчасьці: "Ніводзін палітычны, філязофскі ці навуковы погляд альбо мастацкі твор, які хаця б трошкі выходзіць за рамкі афіцыйнай ідэалёгіі ці эстэтыкі, ня можа быць данесены да грамадзкасьці, немагчымая публічная крытыка крызысных грамадзкіх зьяваў". Бесчалавечная судовая і турэмная сыстэма, забарона свабодна пакідаць краіну і вяртацца ў яе, бескантрольнасьць і беспакаранасьць спэцслужбаў – вось аспэкты праблематыкі, за якую браліся дзеячы "Хартыі". Не забытая была, вядома, і кіраўнічая сіла, кампартыя зь яе антызаконнымі рашэньнямі і закуліснай палітыкай. "Хартыя" ставіла перад сабой задачу не выпрацоўкі ўласнай праграмы палітычных або сацыяльных рэформаў, а вядзеньня канструктыўнага дыялёгу з уладамі, перш за ўсё праз давядзеньне да грамадзтва выпадкаў парушэньня правоў чалавека і грамадзяніна, падрыхтоўку дакумэнтацыі, выступленьне ў якасьці пасярэдніка ў канфліктных сытуацыях, выкліканых бяспраўем. Для нас усё гэта гучыць зусім не як архіўны дакумэнт, хутчэй як улётка, за якую затрымае і пацягне ў пастарунак першы ж патруль – можна паставіць экспэрымэнт.

Краіна адсыпалася пасьля навагодняга балю, а пад рэжым была закладзеная гадзіньнікавая бомба, мэханізм якой цікаў яшчэ амаль 13 гадоў і спрацаваў аксамітным выбухам у лістападзе 1989 г. Рэвалюцыю рабіла ня проста новае пакаленьне. Чэха-славацкае грамадзтва было гатовае да вызваленьня ад камуністычнага раю і маскоўскіх абдымкаў. І ў гэтым галоўную ролю адыграла "Хартыя-77". Лідары, якія ў цёмныя часы маразму вызначылі маральны імпэратыў соцыюму, пайшлі проста з качагарак і андэграўнду на дзяржаўныя пасады. Гавэл быў абраны прэзыдэнтам краіны.

Пад тэкстам "Хартыі-77" падпісаліся 1883 чалавекі розных поглядаў і прафэсіяў. Былі распаўсюджаныя ў краіне і за мяжой тысячы матэрыялаў і адозваў па важнейшых пытаньнях нацыянальнага і міжнароднага характару. Арышты і адсідкі, жорсткія допыты спэцслужбамі не зламалі хартыстаў. Узброеныя праўдай, яны перамаглі.

Валеры Буйвал

# Гістарычныя вынікі году

*Мінулы 1996 год быў такім багатым на ўражаньні й эмоцыі, што заслужыў вельмі моцных характарыстыкаў. Найчасьцей гучаць акрэсьленьні — дыктатура й пераварот. Гэта настолькі значныя зьявы, што прымушаюць пераацэньваць такія паліталягічныя паняткі як посткамунізм і дэмакратызацыя. Пераацэньваць праз дачыненьні беларускай гісторыі з гэтымі паняткамі. Адначасова ў Беларусі нараджаецца цывілізацыйны пэсымізм. Бо спрацоўвае менавіта сынхранізацыйны прынцып асэнсаваньня рэальнасьці —абыбваецца сынхранізацыйнае параўнаньне Беларусі зь іншымі, уласна посткамуністычнымі й постсавецкімі краінамі. На гэткім тле сучасная беларуская гісторыя можа сапраўды выклікаць засмучэньне.*

*Калі ж увайсьці ў поле дысынхроннай рэальнасьці й ацаніць папярэднія 150 гадоў гісторыі Беларусі, асэнсаваць, што сынхронныя культурна-цывілізацыйныя зьявы могуць быць дысынхроннымі ў часе, тады мінулы год набывае новае гучаньне. Для гістарычнай пэрспэктывы Беларусі найбольш важным зьяўляецца тое, што 1996 год стаў годам самавыяўленьня беларускага грамадзтва. Выяўленьня ў тым ліку слабасьцяў і недахопаў. 1996 год стаў для Беларусі шмат у чым вызначальным — ён сфакусаваў і выявіў усе ранейшыя праблемы краіны, але адначасова вызначыў тыя рамкі, у якіх будзе разьвівацца далейшая сучасная гісторыя Беларусі. 1996 год стаў часам наступу аўтарытанага рэжыму на ўсе эканамічныя, палітычныя і культурныя заваёвы дэмакратычнага беларускага грамадзтва. Але ў 1996 годзе незалежнае беларускае грамадзтва выступіла ў абарону сваіх законных правоў, што не заўжды мела посьпех. Таму трэба пералічыць тое, чаму вымушана было супрацьстаяць незалежнае беларускае грамадзтва. А гэта былі:*

*— дыктатура (зь яе прагнымі жаданьнямі);*

*— самыя нізкія інстынкты значнай часткі насельнікаў краю, у тым ліку і грамадзкі нігілізм;*

*— зьнешняя агрэсія, якая часам праяўлялася ў непрыхаваных формах: адпраўка спэцаддзелаў, сакрэтныя вяжы самых адыёзных расейскіх палітыкаў да лідараў беларускага рэжыму, прызнаньне рэжыму (на сёньня Расея — адзіная краіна ў сьвеце, якая прызнала вынікі перавароту).*

*Такі комплексны наступ быў бы цяжкім выпрабаваньнем для любога сталага грамадзтва. Тым больш разбуральным ён зьяўляецца для маладога беларускага грамадзтва. Але незалежнае беларускае грамадзтва не толькі не зьнікла ў выніку тэктанічных зьменаў 1996 году, але нават умацавалася, бо ў супрацьдзеяньні дыктатуры ствараца ўласную гісторыю, якая называецца Сучаснаю. Створаны канкрэтныя гістарычныя вобразы, якія ўжо надалей увойдуць у падручнікі гісторыі Беларусі й Сярэдняй Эўропы: Менская вясна, абарона Канстытуцыі, дыктатура, палітычныя вязьні, абмежаваньне свабоды слова, парушэньне правоў чалавека, нацыянальная дыскрымінацыя, міжнародная салідарнасьць. Гэтыя паняткі набылі вельмі выразнае й канкрэтнае значэньне, дзякуючы чаму іх можна асэнсоўваць і адэкватна рэагаваць на іх.*

*Для адстойваньня ідэі дэмакратычнага разьвіцьця беларускаму грамадзтву патрэбнае асэнсаваньне вынікаў году. Гэткае асэнсаваньне будзе спрыяць кансалідацыі грамадзтва й выбару мірных сродкаў забесьпячэньня свайго існаваньня.*

Алег Дзярновіч

# CONTRA TYRANNOS

*Люблю маю Айчыну болей, чым збавеньне душы.*
Макіявэлі

Не, Макіявэлі беларуская шляхта не любіла, але знаходзіла ў яго трактатах тое, што ёй падабалася. Бо знакаміты флярэнтыец таксама зьяўляўся гарачым патрыётам і рэспубліканцам, а што яшчэ важней — свабода і правы былі для яго найдаражэйшымі. Свабода ў ягоным разуменьні вынікала зь сілы і аўтарытэту права, што выключала ўсялякую тыранію. Тая ж ідэя ў Статуце 1588 году — найлепшай кнізе беларусаў! "Зьяўляемся нявольнікамі правоў дзеля таго, каб карыстацца свабодай", — сьцьвердзіў у прадмове да Статуту Леў Сапега. Вядома, Макіявэлі выступаў за ўладу моцнага манарха, але моцны манарх — гэта яшчэ не тыран.

Калісьці менавіта ўсходнія ўскрайкі Беларусі сталі мяжой паміж свабодай і тыраніяй, паміж эўрапейскай дэмакратыяй і азіяцкай дэспатыяй. З тых часоў, як беларускі народ набыў сваё нацыянальнае аблічча, фэномэнам нашай гісторыі зрабілася свабода. Цяпер мала хто ведае, што традыцыя парлямэнтарызму ў Беларусі сягае сярэдзіны XV ст., калі, пасьля вядомага агульназемскага прывілею Казіміра Ягайлавіча, пытаньні дзяржаўнай важнасьці ў беларуска-літоўскай дзяржаве (падобна, як у Польшчы) сталі вырашацца з удзелам прадстаўнікоў грамадзкасьці. У часы Скарыны ўжо сфармаваўся вальны сойм (парлямэнт). Потым, пасьля Люблінскай уніі, праве́ўшы праз сойм так званыя "Генрыхавы артыкулы", шляхта канчаткова сьцьвердзіла вяршэнства закона над манархам. Першая асоба дзяржавы абіралася ўсім палітычным народам і прысягала не парушаць падставовыя прынцыпы дзяржаўнасьці, а таксама выконваць канкрэтныя абавязкі, сабраныя ў pacta conventa. "Господар наш жадное звирхности над нами заживати не может, одно только, колько ему право допущаеть", — знаходзім у зводзе законаў беларуска-літоўскай дзяржавы. У выпадку парушэньня прынятых законаў манархам яго падданыя маглі не падпарадкоўвацца вярхоўнай уладзе і выступаць супраць парушальніка. Дамова pacta conventa ўзаконіла права ўзброенага супраціву, легалізавала канфэдэрацыю, рокаш.

Так у другой палове XVI ст. у Рэчы Паспалітай, складовай часткай якой зьяўлялася і Беларусь, парлямэнтарызм дасягнуў свайго росквіту. Кожнай свабоднай асобе створаная сыстэма ўлады дазваляла публічна выказваць уласную думку, давала права адстойваць сваю волю, палітычны ўплыў, і што асабліва важна —гарантавала права пратэсту.

Тым часам у суседняй Маскоўскай Русі склаўся прынцыпова іншы дзяржаўны лад. Яшчэ пры вялікім князі Іване III тут усталявалася дэспатычнае кіраваньне ўсходняга тыпу. Акурат у гады росквіту дэмакратыі ў Беларусі Іван IV Жахлівы ўвёў у сваім царстве рэжым усеагульнага прыгону, які не прызнаваў суб'ектыўнага права наогул, ня тое што права на пратэст ці супраціў. Цар зрабіў усіх падданых халопамі і пакінуў ім толькі абавязкі. Ні Баярская Дума, ні Земскія Саборы ня мелі тут ніякай палітычнай вагі. Гербэрштэйн, прыкладам, дзівіўся, што калі ў Вялікім Княстве пануе празьмерная свабода, і ёю злоўжываюць, дык у Маскові нават дараднікі цара не адважваюцца выказаць яму ўласную думку. Са словаў вучонага Віктара Лянтовіча, менавіта рэжым агульнага прыгону, якому спадарожнічалі тэрор і гвалт, з эпохі Івана Жахлівага стаў асноўным фэномэнам расейскай гісторыі.

Калі маскоўскія цары баяліся найдрабнейшага абмежаваньня сваёй улады, і парлямэнт як жахлівая здань пасьледаваў іх нават ва ўяўленьнях, дык беларускую шляхту, наадварот, найбольш непакоіла здань тырана. Ня дзіўна, што яна як зрэнку вока пільнавала свае "залатыя вольнасьці", здабытыя ў манарха шляхам палітычнай барацьбы. Ад дзяржавы рэспубліканскага тыпу да тыранічнага рэжыму можна было перайсьці ў адзін момант. Маючы на ўвазе краіны з абсалютысцкай формай улады, львоўскі кашталян Андрэй Максімільян Фрэдра, вядомы ідэоляг дэмакратыі, пісаў, што свабодзе толькі там нічога не пагражае, дзе яе няма наогул! І дадаваў: ніхто з грамадзянаў вольнай дзяржавы пры здаровым розуме не пяройдзе пад манархічны лад. Па манархіі можа тужыць толькі той народ, які хворы.

У Эўропе XVI-XVII ст. не існавала іншай дзяржавы, дзе б асоба свабоднага чалавека карысталася такімі шырокімі публічнымі правамі, як у Рэчы Паспалітай. У гэтым яна далёка выперадзіла практыку нават больш разьвітых эўрапейскіх краінаў. І ў той жа час, яе палітычная сыстэма дазваляла ўтрымліваць раўнавагу паміж дзяржавай (уладай) і грамадзтвам. Свабода, заснаваная на праве, увасабляла галоўную каштоўнасьць як польскай, так і беларускай шляхты. У прадмове да Статуту Леў Сапега напісаў, што "в каждой речы посполитой человеку почтивому ничого не мает быти дорожшого над вольность". Свабода, зь ягоных словаў, зьяўляецца "скарбом, ... который жадною сумою переплачен быти не может", і лепей ужо выбіраць сьмерць, чым няволю.

Часы Сапегі сталі пэрыядам найвышэйшай палітычнай культуры беларускай шляхты. Яна літаральна атаясамляе сябе са сваёй дзяржавай і адчувае адказнасьць за яе лёс. Пры высокай палітычнай сьвядомасьці яна добра разумее свае прававыя кампэтэнцыі, дэманструе зайздросную грамадзкую актыўнасьць і проста палымяны патрыятызм. У пачатку XVII ст. рыцарства з розных зямель Беларусі было так усхваляванае лёсамі свабоды і Айчыны, што яго тагачасныя галасы і цяпер кранаюць сэрца. Здаецца, для беларускай шляхты гэтыя два паняцьці — Айчына і свабода — сталі на векі непадзельныя. Так, у гады Дзімітрыяды са зьезду ў Вільні яна зьвяртаецца да паноў-брацьці, просячы, каб кожны зь іх "пільны погляд на зьнешніх непрыяцеляў Айчыны нашай мілай меў і быў гатовы на яе ратунак конна, паводле сваіх магчымасьцяў". У 1605 годзе "рыцарства і абывацельства Полацкага ваяводзтва" дзякуе рашучасьць змагацца супраць усяго, што "працііўна правам і вольнасьцям нашым". Беларускія рыцары заяўляюць, што для іх "ніякія кошты, цяжары і бясьпека не такія важныя, як свабода. Яна наймілейшая і найудзячнейшая, пад ёй мы нарадзіліся, жывем і хочам яе цэлую, непарушаную нашчадкам нашым пакінуць..." Далей палачане патрабуюць, каб усе разам паруліліся і супольна "Рэч Паспалітую вольную ад усялякай небясьпекі на ўсе часы зрабілі, а хто на правы і вольнасьці нашыя замахваецца ды іх рознымі практыкамі зьнесьці сіліцца, дагаджаючы ў гэтым сваім прыватным пажыткам, тыя мусяць быць пакараныя, каб і на потым ніводзін ня важыўся". Гэтаксама ў 1607 г., моцна занепакоеныя тым, што кароль і вялікі князь "на правы і вольнасьці нашыя наступае", пацьвярджаючы сваю "гарачую любоў да мілай Айчыны", шчырую "міласьць да супольнай Айчыны", полацкія шляхціцы "чыняць тое, што і прыстала ім як Айчыны добрым сынам", — накіроўваюць пасло ў на антыкаралеўскі рокаш бараніць правы і вольнасьці. Бо для іх Айчына і вольнасьці — сынонімы.

Сымбалем "залатых вольнасьцяў" хутка зрабілася славутае liberum veto — прынцып, які ў нас кожны не прамінаў нагоды згніць. Але ці з рацыяй? Ці такое ўжо заганнае было вольнае "не дазваляю" само па сабе? Няўжо ж гарачыя патрыёты любілі Айчыну толькі на словах, а на справе, зрываючы соймы, сьвядома набліжалі яе пагібель?

Ня думаю, каб ідэолягі рэспублікі не разумелі, куды яе вядуць. Згаданы Фрэдра, самы гарачы апалягет liberum veto, быў перакананы, што калі б у Рэчы Паспалітай замест аднагалоснасьці дзейнічаў прынцып большасьці, і актуальнасьць пастановы залежала ад колькасьці галасоў, гэта нашкодзіла б краіне. Бо — нота бэнэ! — "мноства горшых пераважыла б над меншасьцю лепшых". Бо — зноў увага! —"сьляпое, бязвольнае, выпадковае галасаваньне па прынцыпу большасьці" скасавала б "недаацэнены супраціў нямногіх сумленных грамадзянаў". Большасьць заўсёды лёгка схіляецца ці перад грашыма, ці перад дэмагогіяй, вэта ж дазваляе ратаваць сытуацыю, калі ў парлямэнце ёсьць хоць адзін "разумны патрыёт". А бяз прынцыпу вэта, пытаецца Фрэдра, ці ня здарылася б так, калі "усё, што хацелі зрабіць дзеля публічнага дабра нямногія, змарнуецца, а ўсё, што жадала атрымаць для задавальненьня сваіх амбіцыяў большасьць, будзе рэалізаваная?" Быццам прадбачыў падзеі найноўшай беларускай гісторыі...

Беларус Леў Сапега ва ўяўленьнях Фрыдрыха Шылера (гістарычная драма "Дзімітры") заслугоўваў найвышэйшай ацэнкі за тое, што зрываў вальны сойм, калі той быў гатовы прыняць шкодную для краіны пастанову: "... Я кажу "не"! Я накладаю вэта і зрываю вальны сойм!" Мудры палітык не прымаў апэляцыяў да большасьці. "Кажаце мне — большасьць! Што ж такое большасьць? Большасьць — гэта глупства. Розум заўсёды толькі ў меншасьці", —адказаў ён у шумную залю і прароча сконччыў: "Дзяржава, у якой кіруе большасьць і глупства, мусіць рана ці позна загінуць".

Прывілей вэта быў сапраўднай школай свабоды і агульнадзяржаўнага патрыятызму, лічыў Фрэдра. Сапраўды, інтарэсы прадстаўнікоў розных зямель такой велізарнай і шматнацыянальнай краіны, як Рэч Паспалітая, мала ў чым маглі супадаць, а яны ж прымалі пастановы аднагалосна! Не пад ціскам сілы, не са страху перад уладаром, як гэта было ў абсалютысцкіх дзяржавах, — не, яны ахвяравалі нейкімі ўласнымі інтарэсамі дабраахвотна, сыходзячы з разуменьня сытуацыі. Дзяржава была супольнай справай, штодзённай рэалізацыяй дамовы. Ды праблема палягала на тым, што такі лад мог доўга існаваць толькі пры адсутнасьці зьнешняй пагрозы яго зьнішчэньня. У рэальных жа ўмовах гістарычнага суседзтва абсалютызацыя "залатых вольнасьцяў" межавала з вар'яцтвам.

"Усё трымалася на добрай волі, — скончу словамі закаханага ў мінулае сваёй краіны Адама Міцкевіча. — Калі ж больш не пажадалі цярпець ахвяры, Рэч Паспалітая мусіла спыніцца ў сваёй дарозе, а потым зазнаць няшчасьці..." Яе канец усім добра вядомы. Пасьля "канцэрту трох чорных арлоў" рэспубліка зьнікла з эўрапейскай мапы.

Ці шкадаваць, што продкі не стварылі імпэрыі, што мы ня мелі тады тырана? Што ж на шалях Гісторыі мусіць заважыць болей: дзяржава ці асоба? Калі ў Эўропе, дык выберам другое. Чалавек як адзіная мера і асснова гісторыі. Зрэшты, калісьці адукаваныя беларусы гэта разумелі. Бо казаў жа Сапега, што "цель и скуток усих прав" — добрая слава, здароўе і дабрабыт кожнага. І палічылі ж патрэбным нашыя продкі ў Статуце назваць сябе "шчасьлівым народам" таму, што стварылі добрыя правы, на якіх трымаецца агульная свабода, і што ня мелі, не цярпелі тыраніі: "большай улады гаспадарскай над сабою, чым пэўная мяжа, якую вызначыла права, не дапускалі".

А раб заўсёды хваліць тырана і моцную дзяржаву.

Генадзь Сагановіч

Лёлік Ушкін

# СЬМЕРЦЬ ВЫЧВАРЭНЦА

*Футурыстычная п’еса ў адной дзеі*

*Дзейныя асобы:*

*Лёлік — непапраўны інтэлектуал*
*Ушкін — шчыра наш хлопец*
*Замяталін — дарадца Прэзыдэнта*
*Алік і Сьвета Карнавухавы — проста добрыя людзі*

*МЕНСК 20.11.1996*
*Пакой інтэрната.*
*У пакоі Лёлік і Ушкін.*

ЛЁЛІК: Француская прэса піша, што інтэгратарам году варта лічыць бэльгійскага забойцу-пэдафіла Дзютру. Калі бэльгійцы даведаліся пра крывавыя злачынствы маньяка, яны забыліся на старую ўзаемную антыпатыю між флямандцамі і валёнамі і разам пратэставалі супраць бязьдзеяньня ўладаў.

УШКІН: Ты што, прапануеш Прэзыдэнту, каб аб'яднаць славянаў, стаць...?

ЛЁЛІК: Не, я да таго, што ў сучасным грамадзтве дзеюць абсалютна новыя мэханізмы і вартасьці. Напрыклад, герой фільма "Форэст Гамп" — сапраўдны "тормаз", а стаў нацыянальным героем Амэрыкі.

УШКІН: А, ты прапануеш Шарэцкаму стаць бажаволкам?

ЛЁЛІК: Не, ты не разумееш! Я проста не хачу, каб наступны нумар "Нашай Нівы" было б магчыма пераказаць ужо сёньня. Баюся, што або ён будзе сумна-манатонны: "Мы прайгралі", або супэр-сьвяточны: "Дэмакратыя перамагла, гура!"

УШКІН *(кідаючы ў Лёліка 3 том збору твораў Ніла Гілевіча)*: Не сьвятатацтвуй!

ЛЁЛІК *(ад удару зваліўся на падлогу і кажа лежачы)*: Я разумею, што закранаюцца твае пачуцьці, але я вар'яцею ад абмежаванасьці варыянтаў разьвіцьця падзеяў. Урэшце "беларускі крызыс" скончыцца або Масквой жніўня 91-га, або ізноў жа Масквой кастрычніка 93-га. Маштабы, праўда, іншыя... Ці не здаецца табе, што праяўляе сябе славутая "беларуская правінцыйнасьць"?!

УШКІН *(пачынае зьбіваць Лёліка нагамі)*: Я табе пакажу правінцыйнасьць!

ЛЁЛІК *(робячы спробу ўнікнуць чарговага ўдару)*: Дарэчы, мне падабаецца сёньняшняя атмасфэра двухуладзьдзя і нявызначанасьці. Жывем, нібы ў кіно! На юрфаку завочнікі здаюць Канстытуцыйнае права паводле старой Канстытуцыі. Тыя, хто ня здасьць іспыт да 25-га, магчыма, будуць здаваць яго паводле новай. Сёньня на хвілю выключыўся сэрыял будзённай вызначанасьці, навокал сюрпрызы і небясьпека. Рамантыка!

УШКІН *(на момант прыпыняе экзэкуцыю)*: А ты чакаеш ад беларускай рэвалюцыі нечага большага?..

ЛЁЛІК: Сёньня рэвалюцыя забуксавала ў "прававым полі", якое не сумяшчаецца з сэксуальна-дэструктыўнай эстэтыкай бунту. Удзельнікі францускай рэвалюцыі трыюмфавалі, калі захапілі дый разабралі па цаглінках Бастылію, а мы радыя, калі ў ВС зьбіраецца кворум!

*У гэты час у пакой заходзіць Замяталін і ўключае тэлевізар. Паказваюць "Падзеньне Бэрліну". На экране агонія фюрэра.*

УШКІН *(тупа глядзіць у экран, потым усхопліваецца і зноў пачынае "мачыць" Лёліка)*: Табе хочацца, каб Лукашэнка загадаў затапіць мэтро?!

ЛЁЛІК *(паступова заціхаючы)*: Не-е-е! Наадварот добра, што беларуская думка адмаўляецца ад ідэалізацыі пакутніцтва. Па-сутнасьці, пакутніцтва — гэта фундамэнтальная частка ідэалёгіі масавай сьвядомасьці ў традыцыйным грамадзтве; гэта архетып паводзінаў чалавечага існаваньня ў саўковай Беларусі. Ці ня ў вобразе пакутніка апэлюе да сваёй масы Лукашэнка? Было б цікава, каб супрацьстаяньне "дэмакратыя — дыктатура" адбывалася не "паводле Канстытуцыйных нормаў", а паводле нормаў і мадэляў існаваньня.

УШКІН *(пачашчаючы ўдары)*: Сусьветна-гістарычнага значэньня беларускай рэвалюцыі захацелася?!

*' Лёлік, канаючы, штосьці мармыча пра пэдафілію і мэтады яе дыягностыкі.*

*У пакой уваходзяць Алік і Сьвета Карнавухавы. У іх у руках гарэлка і ежа. Няма толькі яек, бо зь яйкамі, як піша газэта "Известия", ў Менску туга.*

*Менск*

Ганна Матусэвіч

# БУКАТКА

Еду гэта я з канцэрту Данчыка. Усё пяе ўва мне. І Данчык стаіць перад вачыма. Пасівелы, надта хударлявы, але зграбны й прыгожы, як малады клён. Ды не адна я на песьні ў сталіцу езьдзіла. Цэлая койданаўская капэля расьселася ў электрычцы. Праўда, сьпевакі з нас — няважныя. Затое ўсе мы — цікавыя людзі. Бо не абораю букатку кроім.

Stop! Шаноўныя гаспадары ня ведаюць, што такое "букатка"? Прызнацца па-праўдзе, і я ня ведала, пакуль сёньня ня стрэла спадара Міхася Сантаровіча. Ён працуе на ДЭМЗе. Ну, як у саўковым перакладзе, дык гэта — Дзяржынскі экспэрымэнтальны мэханічны завод. А як у Міхасёвым... ой, не патраплю сказаць. Надта мудра. Толькі й запомніла, што завод — гэта фабрыка будзе. Бо ён пісаў у "Свабоду" наконт фабрыкі ліст.

Ну от спадар Міхась і расказвае. Заходзіць гэта ён у краму і просіць, каб далі яму хлеб ды букатку. Ну яму й выдалі без аніякіх пытаньняў прошанае.

— То, можа, там апроч хлеба ды батона нічога й не было? —здагадваецца Сяргей Іванавіч. І патрапляе дакладна ў цэль. Сяргей Іванавіч — гэта Сідор. Яго ўсе ведаюць. Выкладае геаграфію ў БДУ. Шчэ на дэпутата балятаваўся некалі.

Але гэта слаба сказана пра букатку. Аднаго разу спадар Міхась падвёў нейкую паважную кабету. Заходзіць тая ў электрычку ды пытаецца ў Міхася, куды ён едзе.

— Да Берасьця.

— А-а-а-й! — залямантавала жанчына. Ды ходу зь цягніка. Пасьля апамяталася, перапытала ў нармальнага мужчыны, куды той едзе.

— Да Брэста, — быў адказ.

— Выбачайце, я ня ведаў, што Вы не разумееце па-беларуску, —тактоўна адвёў ад сябе поўху ўгневанай кабеты спадар Міхась.

Скончыліся анэкдоты. І спадар Міхась зь Сяргеем Іванавічам заспрачаліся наконт беларускага альбо небеларускага паходжаньня шматлікіх словаў. І па маю дапамогу зьвярталіся. У такіх простых пытаньнях, як кветкі — краскі, сьметанковае масла — проста масла, я ім дапамагла. А далей яны рушылі ў такія нетры, куды мая сьціплая галава не асьмельвалася заглядваць. Сяргей Іванавіч як географ скіраваў гаворку да нафты і скасавурыўся на свайго апанэнта. А той не прамарудзіў даць бой: "Гэта зямельнае масла ды ня нафта!" А яшчэ сп. Міхась неяк мудра перакладаў койданаўскі "Аграмаш". Толькі й запомніла, што "агра" — гэта зямля.

Модны ды наравісты шляхцюк гэты наш Міхась Сантаровіч! Падобны да Каруся Каганца. Нездарма яны землякі. Абодва вывеліся з Навасёлкаў.

А мне ўрэшце надакучыла слухаць гэты тлум. І я ім сказанула, што яны падобныя да гусака-шыпуна ды індыка-балбатуна з казкі "Пшанічны каласок", якую так упадабаў мой Міколка.

Тады яны зноў заспрачаліся, хто зь іх шыпун, а хто балбатун. А ўсе астатнія койданаўцы гэтак шчыра рагаталі, што ледзьве лбы сабе не парастаўкалі. А я дык мо й занадта нагнала сабе зморшчынак на твар. Але не баюся і не шкадую.

*Койданава*

Лявон Юрэвіч

# ВЫКАПНІ

Здавалася, тут спыніўся час. Па дарозе з працы я забег у нічым не прыкметны звонку бар "Сьвятога Марка" на Першай Авэню на каву і застаўся на піва, бо пачуў шарпаты голас Тома Ўэйтса. А потым убачыў знаёмую апратку, і нават твары падаліся знаёмымі — як у славутым менскім "Ясені", збудаваным на падмурках сьвятых сьцен у Верхнім горадзе, каб пазьней гэтаксама быць зруйнаваным дзеля нічога. Я нават ня мог уявіць, што спасярод рокераў, рэпу, панкаў, самых неверагодных меншасьцяў яшчэ жывуць у Нью-Ёрку гэткія выкапні — хіпі, хоць іхні ўзрост большменш адпавядаў майму.

Было тлумна, дымна, але на фота на сьценах яшчэ можна было пазнаць Rolling Stones, што ў 1982 здымалі тут свой хіт "Waiting on friend", або Joan Osborne, якая ці не пачынала адсюль. Яшчэ я хутчэй здагадаўся пра пэрсанажаў наступнай фоткі — U2, а далей разгледзець штосьці было немагчыма: паўсюдна стаялі, сноўдалі, соўваліся дзяўчаты і мужчыны з аднолькавымі чупрынамі і стужкамі, палілі, верагодна, ня толькі цыгарэты, і гаварылі, гаварылі, гаварылі...

Раптам адзін зь месьцічаў, зьвярнуўшыся да бармэна, замовіў, як звычайна замаўляюць кухаль піва, "Бэроўза". І бармэн, для якога, відаць, уласны "прыкід" быў ня толькі ўніформай, не памкнуўся рабіць нейкі адмысловы гатунак напою, а галосна пачаў:

"Я бачу тысячы людзей з магнітафонамі, маленькімі і вялікімі. Пасланьні перадаюцца туды-сюды, як афрыканскія тамтамы, пародыя на прамову Прэзыдэнта, па гаўбцах уніз і ўверх, залятаюць і вылятаюць з адчыненых акенцаў, скрозь сьцены, працінаюць двары, падхопліваюцца брэхам сабак, няўцямнасьцю бадзяг, музыкай, рухам машын па вуліцах, напоўненых скразьняком, па парках і футбольных палях. Ілюзія — зброя рэвалюцыі: распаўсюджвайце чуткі! Накіруйце тузін апэратараў з запісамі на вуліцу ў час, калі людзі ідуць на працу, і пабачыце, як хутка разьляцяцца весткі. Людзі ня будуць ведаць, дзе пачулі, але яны пачуюць гэта".

Разгубленасьць нэафіта была настолькі відавочная, што мясцовая Ёка Она, нахіліўшыся, пусьціла мне ў твар цыгарэтнага дыму: "Бэроўз, Уільям... Электронная рэвалюцыя"... А потым, адхіснуўшыся ўбок, падхапіла: "Дыскрэдытацыя апанэнтаў! Вазьміце запіс прамовы лідэра, дадайце туды заіканьне, кашаль, чох, ікоту, рык, крыкі болю, страху, скавытаньне, пусканьне сьлюняў, саплей, ідыёцкія сэксуальныя гукі і жывёльныя эфэкты і прайграйце іх на вуліцах, станцыях мэтро, у парках, на палітычных мітынгах. Гэта найпершая зброя ў распальваньні й паглыбленьні непарадкаў. Бунтарскія гукавыя эфэкты дапамогуць распаліць сапраўдны бунт у сытуацыі хаосу, што ахапіў краіну. Запісаныя гукі паліцэйскіх сырэн забяруць увагу сапраўдных паліцэйскіх. І тыя забяруць вас. Значна прасьцей распачаць бунт, чым супакоіць яго".

Нехта падхапіў дэклямацыю ў іншым куце, але ўжо больш для сябе самога, бо неўзабаве голас сьцішыўся і зусім змоўк, саступіўшы месца прамовам усіх да ўсіх і ні да кога. Выглядала, што сёньняшнія наведнікі выдатна ведаюць тэкст Бэроўза, які аб'ядноўвае іх, запрашае зьбірацца пад дахам "Сьвятога Марка". І тое, што для мяне сталася відовішчам, тэатрам, для іх —шараговая замова ў сваім бары. Можа, іншым вечарам яны ўголас чытаюць Раймонда Карвэра або Кэруака ці там якога Дональда Бартхелма. Мне заўсёды здавалася, што бітнікі — ня столькі філязофія, колькі этыка. І сама творчасьць іх была проста вольнай, не рэвалюцыйнай, але яна вяла да рэвалюцыі. Цяпер у літаратуры поўна розных ідэяў, вось толькі этыкі не стае.



Акцыя хіпі (1967)

У думках пра літаратуру нечакана для сябе ўбачыў Саму Літаратуру: калматая барада, акуляры колцам на немалым носе, лысіна, аздобленая непаслухмянымі кучарашкамі — непадёк у залі сядзеў Алэн Гінсбэрг.

Год мінуў ад нашай апошняй сустрэчы. Колькі яму, 80? А тады са сьмехам паказваў мне копіі артыкулаў пра сябе: "паэт хіпі", "руйнавальнік", "патэнцыяльна небясьпечны, са схільнасьцю да ірацыянальнага, суіцыдальныя думкі", "прапагандыст непаслухмянасьці ўраду", "эмацыйна нестабільны", "моўная неразборлівасьць", "блакітны". І калі я быў спытаў пра ягонае стаўленьне да такога татальнага пляжаньня, ён адказаў: усе ворагі былі антыамэрыканцамі. Яны б распачалі судовую справу нават супраць Тора ці Ўітмэна ці Эмэрсана, гэтых сапраўдных амэрыканскіх каштоўнасьцяў. Можа, дадаў ён, ім не хапала пачуцьця самаіроніі? Тады Алэна называлі голасам бітнікаў (от, ня ведаў супрацоўнік сан-францыскай "Кронікл" Герб Каэн, што ягонае вынаходніцтва "бітнік" атрымае такую вядомасьць), а сёньня Гінсбэрг, адсядзеўшы восем месяцаў у Нью-Ёрскім псыхіятрычным Інстытуце, — голас Амэрыкі.

Я прыўзьняўся і пайшоў да яго. Яшчэ здалёк, пабачыўшы мяне, Алэн закрычаў: "Вось яно, бітае пакаленьне! Літаратурны рух сяброў, сакрамэнтальнае сваяцтва, талерантнасьць, новае бачаньне; голы, распрануты розум! Яны не чытаюць Дастаеўскага, Рэмбо ці Шпэнглера, але яны чытаюць мяне!"

— Вы мінулы раз нічога не расказалі пра суд.

— О, 1956 год! Паліцыянт прыдбаў маю кнігу — і палічыў яе "непрыстойнай". Ён арыштаваў друкара і гандляра. Што вы скажыце, га? Проста шлэмазл! Пасьля суда над кнігай Джойса ў 1933-м гэта быў першы такі даўгі суд і першы за ўсю гісторыю, калі літаратура зьяўлялася доказам абвінавачаньня, ацэненым прафэсарамі і экспэртамі, якія даводзілі, што паэзія мае сацыяльную аснову і будзённае майстэрства. Гэтыя два крытэрыі былі пададзеныя як канстытуцыйныя правы супраць цэнзуры. А "непрыстойнасьць" кнігі бачылася ў тым, што, маўляў, кожны чытач адразу адчуе неадольнае жаданьне жанчыны. І што? —спытаеце вы. Вось судзьдзя даў кнігу сваім сябрам, і тыя не "завяліся". Таму ён апраўдаў мой зборнік як не "непрыстойны". Такім чынам, выйграў я, і ад таго часу пачалася мая вядомасьць як паэта. Дзякуй паліцыі!

Гінсбэрг заўсьміхаўся. Але ён мае рацыю: менавіта суд над паэтам даў дарогу кнігам Генры Мілера, "Лэдзі Чатэрлей", "Голаму сьняданку". Суд над паэтам працярэбіў дарогу свабодзе. Судзіце — і яны вызваляцца.

*Нью-Ёрк*

# Вайна і мусульманскае адраджэньне

Усе адзначаюць цяпер факт рэлігійнага ажыўленьня ў былых камуністычных краінах. І ўсё ж, ня гледзячы на адзіную тэндэнцыю, працэс гэты ў розных краінах і рэгіёнах ідзе па-рознаму: калі ў сёньняшняй Расеі можна заўважыць толькі ажыўленьне праваслаўя, Паўночны Каўказ (Чачэнія, Інгушэцiя і Дагестан) перажывае сапраўднае мусульманскае адраджэньне. Асабліва характэрны прыклад Чачэніі, дзе пасьля пачатку ў сьнежні 1994 году расейска-чачэнскай вайны рэгенэрацыя ісламу адбывалася надзвычай бурна.

У XX ст. лёс двойчы судзіў чачэнцам трагічныя выпрабаваньні: сьпярша ў 1944-57 г. сталінскае высяленьне цэлага народу ў казахстанскія стэпы, часткова супастаўнае з бабілёнскім паланеньнем старажытных габраяў, пасьля рассійска-чачэнская вайна (сьнежань 1994 — жнівень 1996), якаяператварыла блізка паловы жыхароў маленькай Чачэніі ў перамешчаных асобаў і ўцекачоў і часам сьведчыла пра імкненьне расейскага кіраўніцтва "канчаткова разьвязаць чачэнскую праблему". Вядома, што цяжкія выпрабаваньні разам з матэрыяльнымі нягодамі спрыяюць паглыбленьню духоўнага досьведу народу і яго містычнага сьветаўспрыманьня. Чачэнскія горцы, адарваўшыся ад роднага каўкаскага асяродзьдзя і апынуўшыся ў гушчы Савецкага Саюзу ў Казахстане, актыўна ўзаемадзеялі зь мясцовым жыхарствам, казахамі і расейцамі, а таксама з высланымі туды прадстаўнікамі іншых народаў, братамі ў няшчасьці. Усё гэта моцна спрыяла захаваньню і ўзбагачэньню рэлігійнага і духоўнага досьведу чачэнцаў. Многія чачэнскія алімы (настаўнікі) не перажылі пары выгнаньня, але яны перадалі свае веды і традыцыі маладзейшым пакаленьням.

Цікава, што ступень духоўнай свабоды горцаў-выгнаньнікаў была вышэйшаю, чымся ў іншых паўночнакаўкаскіх горцаў, што не папалі пад высяленьне, але затое апынуліся пад нядрэмным таталітарным кантролем. Дачыненьні з праваслаўным і іншым хрысьціянскім насельніцтвам выклікалі сярод чачэнцаў значную ўвагу да Ісуса Хрыста (хоць і ўспрыманага згодна з мусульманскаю традыцыяй у якасьці аднаго з прарокаў) і веру ў Яго другое прышэсьце. Ужо нашымі днямі (на пачатку верасьня 1995 г.) адна з маіх знаёмых чачэнак сярэдняга веку апавядала мне пра тое, што яна бачыла сон, як расчыняецца нябеснае скляпеньне і адтуль па сходах спускаецца жывы Ісус. Ідэя пра другое прышэсьце Ісуса Хрыста распаўсюджаная ў чачэнцаў, хаця й ня так шырока, як сярод хрысьціянаў, але яўна шырэй, чымся сярод іншых мусульманаў.

У гады выгнаньня, а затым у хрушчоўскі і брэжнеўскі час, а таксама ў сярэдзіне 80-х рэлігійнае жыцьцё чачэнцаў занепадала. Бальшыня мячэцяў была або закрытая, або разбураная. Актыўнае аднаўленьне і будаўніцтва мячэцяў пачалося толькі ў пару позьняй перабудовы напрыканцы 80-х. Дзіўным чынам працэс мусульманскага адраджэньня пайшоў вельмі хутка: будаваліся і будуюцца мячэці, у пэрыяд фактычнай незалежнасьці за прэзыдэнтам Дудаевым (у 1991-94 г.) у Грозным адкрыўся мусульманскі ўнівэрсытэт, бытавое захаваньне мусульманскай абраднасьці набыло блізу паўсюдны характар.

Традыцыйны суніцкі іслам, распаўсюджаны ў Чачэніі, заўсёды быў трывала зьвязаны з суфійскімі брацтвамі Кадзірыя і Накшбанцiя, якія ў сваю чаргу дзяліліся на драбнейшыя адгаліненьні —разнастайныя вірды. Сёньня пераважная бальшыня чачэнцаў належыць да таго ці іншага вірду суфійскіх брацтваў. Хаця афіцыйнай статыстыкі пра разьмеркаваньне чачэнцаў па вірдах і брацтвах не існуе, тым ня менш, многія з чачэнцаў мяркуюць (раблю вывад на аснове асабістых гутарак у розных раёнах Чачэніі), што прыкладна 60 працэнтаў жыхарства належыць да вірду Кунта-хаджы брацтва Кадзірыі. Ён адметны гучным кругавым зыкрам-танцам са сьпяваньнем сьвятарных мусульманскіх формулаў і малітваў на чачэнскай мове. Абвостранае зацікаўленьне Чачэніяй, выкліканае вайной за незалежнасьць і прыкметным высездам чачэнцаў па навуку ў духоўныя мусульманскія школы, прывяло да таго, што на мусульманскім Усходзе зыкар вірду Кунта-хаджы пачалі апошнім часам называць "чачэнскім", і адначасова ён быў прызнаны мусульманскімі аўтарытэтамі самастойным зыкрам, які адпавядае канонам ісламу.

Мужчыны і жанчыны ў Чачэніі звычайна адпраўляюць зыкар паасобку. У кожнай мясцовасьці групы мюрыдаў, пасьлядоўнікаў таго ці іншага вірду, ачольваюцца мужчынам або жанчынай-туркхам, то бок пэўнаю асобай, адказнаю за адпраўленьне зыкру. Адзінае выключэньне — кадзірыйскі вірд Віс-хаджы, які ўвёў у рытуал свайго зыкру ня толькі музычнае суправаджэньне, але й выкананьне зыкру мужчынамі й жанчынамі.

Таму, каму даводзілася назіраць групы зыкрыстаў у чачэнскіх сёлах, надоўга запамятаецца незабыўнае ўражаньне ад выкананьня зыкру. Вясковыя мужчынскія і жаночыя групы мюрыдаў на чале са сваімі туркхамі — гэта зазвычай цудоўныя народныя калектывы, згуртаваныя магутнаю рэлігійнаю ідэяй. Аднаго разу з адным такім жаночым калектывам з



паселішча Камсамольскі Наурскага раёну мы з калегам і сябрам Аляксеем Кудраўцавым схалі аўтобусам з Паўночнай Чачэніі ў акупаваны фэдэральнымі сіламі Грозны, каб узяць удзел у дэманстрацыі з нагоды чацьвертых угодкаў чачэнскай незалежнасьці (6 верасьня 1995 г.). Цягам усёй нашай дарогі чачэнкі на чале з жанчынай-туркхам сьпявалі малітоўныя песьні. Я вельмі шкадаваў тады, што ня меў дыктафону і ня мог запісаць гэтага цудоўнага народнага хору. Уражвалі ня толькі глыбокія чыстыя галасы, але й тая духоўная энэргія, якую яны разьлівалі наўкола і ад якой проста трасься й дрыжэў засьджаны вясковы аўтобус.

Другім важным чыньнікам, што характарызуе вырастаньне ролі ісламу ў сучаснай Чачэніі, уяўляецца імкненьне пашырыць сфэру выкарыстаньня шарыяту ці, прынамсі, некаторых яго элемэнтаў у грамадзкім жыцьці. Цікава, што гэтая тэндэнцыя рэзка памацнілася якраз пасьля пачатку баявых дзеяньняў у Чачэніі. Увесну 1995 году, калі байцы чачэнскага супраціву змушаныя былі пакінуць Грозны і адступіць у горныя раёны, на тэрыторыях, што знаходзіліся пад кантролем прыхільнікаў незалежнасьці, пачалі дзейнічаць шарыяцкія суды і выкарыстоўвацца пакараньні, прадугледжаныя шарыятам, перадусім за п'янства і продаж сьпіртавых напояў. Пакараньне за п'янства прадугледжвае 40 удараў палкай (агаворваецца, што для біцьця выкарыстоўваецца гнуткая галіна). Апрача таго, нельга біць наводліў, можна толькі рукой, сагнутай у локці. Такім чынам, пакараньне ўяўляе сабою не катаваньне, а публічнае прыніжэньне за амаральны ўчынак. Продажам сьпіртнога ў Чачэніі звычайна займаюцца жанчыны. У гэтым выпадку, згодна з шарыятам, публічна караюцца ня самі парушальніцы, а хто-небудзь зь іхніх мужчынаў-сваякоў.

Часам здараюцца й стражэйшыя пакараньні. Пра адно зь іх пад час доўгага начнога расьпіваньня гарбаты ў Ведзяно 20 лістапада 1995 году мне і двум маім сябрам-журналістам расказаў Шаміль Басаеў. Адзін з найбольш аўтарытэтных лідараў чачэнскага супраціву паведаміў, што ў Вядзенскім раёне за хабарніцтва быў пакараны 102 ударамі палкі і арыштаваны прэфэкт Вядзенскага раёну, прызначаны марыянэткавым урадам Заўгаева. Шаміль Басаеў і іншыя палявыя камандзіры прызнаюць немагчымасьць выкарыстаньня шарыяту ў цяперашняй Чачэніі ў поўным аб'ёме. Апрача таго, гістарычна шарыят у Чачэніі заўсёды дапаўняўся і карэктаваўся адатам, то бок мясцовым звычаем, і цывільныя, а таксама дробныя крымінальныя справы • вырашаліся на аснове выкарыстаньня сымбіёзу адатна-шарыятных прынцыпаў.

Дзе пройдзе мяжа выкарыстаньня шарыяту ў праўнай сыстэме пасьляваеннай Чачэніі, пакуль няясна. Многія сучасныя чачэнскія лідары, у прыватнасьці Аслан Масхадаў і Шаміль Басаеў, бачаць выйсьце ў спалучэньні шарыяту з адатам (звычаем) і сьвецкім правам.

Расейска-чачэнская вайна значна памацніла рэлігійныя пачуцьці чачэнскага народу. Разам з тым узброены канфлікт паміж Расеяй і Чачэніяй не набыў міжэтнічнага характару, а застаўся пераважна міжэтнічным. Гэта быў адзін зь нямногіх такога тыпу канфліктаў нашага часу, у ходзе якога не праводзіліся этнічныя чысткі. Чачэнскі народ у найцяжкім процістаяньні вялікай дзяржаве прадэманстраваў ня толькі яркія ўзоры сапраўднага гераізму, але й надзвычайную ўнутраную высакароднасьць і годнасьць, у аснове якіх ляжаць цьвёрдая вернасьць духоўным каштоўнасьцям ісламу і шматвяковым свабодалюбным горскім традыцыям.

**Міхаіл Рошчын**

*Міхаіл Рошчын (Михаил Рощин), супрацоўнік Інстытута ўсходазнаўства (Масква). Займаўся вывучэньнем беларускіх татараў, а ў 1990 годзе падрыхтаваў і апублікаваў у Маскве падборку матэрыялаў пра нефармальны рух сярод беларускае моладзі. Апошнія гады займаецца праваабарончай дзейнасьцю ў Чачэніі й Карабаху. Падтрымлівае сувязі з прадстаўнікамі незалежнага беларускага грамадзтва.*

# Франкафоны і Інтэрнэт

Па меры ўсё большага разьвіцьця глябальнай кампутарнай сеткі Інтэрнэт, урады многіх краінаў робяцца ўсё болей заклапочанымі зьместам разьмешчаных тут матэрыялаў. У прыватнасьці, парнаграфіяй і непрыстойнай мовай. Але французы больш занепакоеныя тым, што стандартнай мовай для Інтэрнэту зрабілася ангельская, пацясьніўшы французкую нават на электронных адрасах у самой Францыі.

Апошні крок зацятых франкафонаў у іх намаганьнях прымусіць Інтэрнэт загаварыць па-француску — гэта судовае перасьледаваньне амэрыканскіх спонсараў аднаго суцэльна ангельскамоўнага адраса "сусьветнага павучыньня" ў Францыі. Прычына ў тым, што іх матэрыялы не дублююцца па-француску, а падаюцца выключна па-ангельску.

Гэты судовы іск, ініцыяваны дзьвюма прыватнымі групамі французаў, відавочна зьяўляецца першай юрыдычнай спробай падвергнуць Інтэрнэт цэнзуры з прычыны звычайнай мовы (у адрозьненьне ад шматлікіх фактаў цэнзуры ў ЗША з нагоды брыдкаслоўя і парнаграфіі). Ісцы спасылаюцца на прыняты ў 1994 г. закон, што забараняе продаж у Францыі "тавараў і паслугаў" з ужываньнем выключна замежнай мовы.

Гэтая судовая справа сьведчыць ня толькі пра даўняе жаданьне французаў захаваць у чысьціні сваю родную мову. Яна таксама ўказвае на мэнтальнасьць людзей, якія жывуць ва ўмовах моцнай прэзыдэнцкай улады і татальнага дзяржаўнага кантролю і вераць, што загадам чыноўніка можна кіраваць такой анархічнай паводле свайго скаладу і ў прынцыпе бескантрольнай зьявай як Інтэрнэт. Судовы іск таксама ёсьць ілюстрацыяй тыпова францускага фэномэну: жаданьня ісьці ў нагу з навукова-тэхнічным прагрэсам, захоўваючы пры гэтым стагодзьдзямі выпрацаваную нацыянальную культуру.

Яшчэ ў 1994 г. тагачасны міністар культуры заявіў, што з-за Інтэрнэту Францыя апынулася перад пагрозай новай формы каляніялізму па меры таго, як Злучаныя Штаты ўсё больш дамінуюць у гэтай галіне. "Калі мы нічога ня зробім цяпер, то пасьля будзе позна. Мы станемся калёніяй", — казаў Жак Цюбон. Ён жа і "прабіў" закон, скіраваны супраць ангельскамоўных старонак "сусьветнага павучыньня". Праўда, на той час закон быў арыентаваны ў асноўным на бізнэс, калі, для прыкладу, прадаваныя ў Францыі касэтныя плэеры фірмы "Sony" мусілі мяняць назву з "Walkman" на "Balladeur". А прэзыдэнт Францыі Жак Шырак, выступаючы паўгады таму на канфэрэнцыі, прысьвечанай пытаньням францускай мовы і разьвіцьця новых тэхналёгіяў, сказаў на гэтую тэму наступнае: "Стаўкі тут даволі высокія. Калі ва ўмовах новых сродкаў перадачы інфармацыі нашая мова, нашыя адукацыйныя праграмы, нашыя спрадвечныя здабыткі ня будуць дастаткова захаваныя, то маладое пакаленьне нашай краіны будзе эканамічна і культурна маргіналізаванае".

Але сёньня прыняты ў 1994 г. закон наконт абароны францускай мовы спрабуюць ужыць супраць францускай філіі амэрыканскага ўнівэрсытэту Georgia Tech, што знаходзіцца ў мястэчку Metz на ўсходзе Францыі, і дзе вучыцца блізу 60 студэнтаў (пераважна з ЗША). Навучальныя праграмы тут тыя самыя, што і ў амэрыканскіх унівэрсытэтах, выкладчыкі таксама прыяжджаюць з Злучаных Штатаў, і выкладаньне вядзецца па-ангельску. Натуральна, што інтэрнэтаўская старонка, якая падае інфармацыю пра ўмовы паступленьня, рэгістрацыі і зьмест прадметаў, разьлічаная ў першую чаргу на амэрыканцаў і напісаная на ангельскай мове.

Паводле прыблізных падлікаў 90% усяго зьместу Інтэрнэту прыпадае на ангельскую мову. Ці ня з гэтай прычыны нават па стандартах неангельскамоўных краінаў Францыя ніяк не пасьпявае за прагрэсам. У гэтай тэхналягічна разьвітай краіне да сусьветнай кампутарнай сеткі падлучана ўсяго 490 тыс. кампутараў, зь якіх 370 тысяч належаць бізнэсу, а 120 тысяч прыватным асаобам. Для параўнаньня, у ЗША, дзе амэрыканскае насельніцтва перавышае францускае ў 5 разоў пры амаль аднолькавым тэхналягічным разьвіцьці краін, колькасьць толькі дарослых карыстальнікаў Інтэрнэту ацэньваецца ў больш як 23 млн. абанэнтаў.

Дамінаваньне ангельскай мовы можна добра праілюстраваць такім прыкладам. Калі ў адну з пошукавых сыстэмаў Інтэрнэту ўвялі чыста францускае слова "Напалеон", то быў знойдзены 901 матэрыял на гэтую тэму. Сярод першых 200 толькі адзін быў на францускай мове. Некалькі былі па-нямецку ці па-гішпанску, астатнія ж — па-ангельску.

Апроч францускай алергіі да ангельскай мовы называецца яшчэ адна прычына няшпаркага далучэньня французаў да сусьветнай кампутарнай сеткі: у краіне ўжо існуюць паслугі падобнага кшталту. 6,5 млн. абанэнтаў падключаныя да сеткі Minitel, якая дае бясплатныя паслугі і абслугоўваецца дзяржаўнай тэлефоннай кампаніяй. Пры дапамозе Minitel карыстальнікі могуць зьвяртацца да электронных тэлефонных даведнікаў, праглядаць расклады цягнікоў і самалётаў, а таксама браніраваць білеты на іх, замаўляць тавары і прымаць-адсылаць электронную пошту. Minitel — гэта нізкатэхналягічная сыстэма, але яна дае любому ахвотнаму такія паслугі, дзеля якіх у іншых краінах людзям даводзіцца набываць пэрсанальныя кампутары.

Менавіта адсутнасьць францускай мовы на інтэрнэтаўскай хатняй старонцы філіі амэрыканскага ўнівэрсытэту Georgia Tech і разьятрыла актывістаў асацыяцыі пад назвай Абаронцы Францускай Мовы і сяброў таварыства Будучыня Францускай Мовы, якія і падалі судовы іск.

Звычайна сябры гэтых арганізацыяў бавяць час, інспэктуючы рэстаранныя мэню і таварныя этыкеткі на прадмет наяўнасьці ў іх чужаземных словаў. У выпадку непарадку яны цягнуць вінаватых у суд. У 1994 г. яны спрабавалі судзіцца зь дзяржаўнай францускай поштай за тое, што апошняя назвала сваю міжнародную кур'ерскую службу ангельскім словам Skypack. Праўда, паколькі абаронцы францускай мовы судзіліся зь дзяржаўнай установай, то справу яны прайгралі. Але вось недзяржаўнай кампаніі Walt Disney Co давялося да сваіх тавараў, што прадаюцца ў францускіх крамах, дадаць этыкеткі на францускай мове.

Прадстаўнік асацыяцыі Абароны Францускай Мовы Марк Дэшам у інтэрвію газэце The Washington Post растлумачыў, што прычына іх зьвяртаньня ў суд ня ў тым, што Інтэрнэтаўская старонка напісаная па-ангельску, але ў тым, што яна не дублюецца па-француску.

**Уладзімер Бараніч**

# Паўстаньне вязьняў ГУЛАГу

Працяг за старонкі 1.

3. Стварэньне на аснове добраахвотнага набору ўзброенай арміі для адпраўкі на фронт.

4. Неадкладнае разьвіцьцё прыватнай уласнасьці і роспуск калгасаў.

Паўстаньне павінна было пачацца адначасова на "Лесарэйдзе" і ў лагпункце Поле-Кур'я. Пасьля аб'яднаньня паўстанцы мелі намер захапіць райцэнтар Усьць-Уса, адкуль праз рацыю абвясьціць ультыматум аб вызваленьні ўсіх зьняволеных Варкутлагу, а ў выпадку адмовы рухацца групамі на Варкуту, Інту, Котлас, вызваляючы зьняволеных.

Паўстаньне пачалося паводле пляну. Гэта было першае ў гісторыі ГУЛАГу ўзброенае выступленьне. Вольныя ад дзяжурства ахоўнікі сабраліся ў лазьню. Варта ім было зачыніць дзьверы лазьні, як паўстанцы разьзброілі стралка аховы, а потым, прабраўшыся ў казарму, і дзяжурнага. Узброіўшыся, група зьняволеных накіравалася да лазьні. Стралкоў перавялі пад замок у сховішча агародніны.

Адчынілі зону. Паўстанцы накіраваліся па бараках і пачалі агітаваць іншых далучыцца да іх. Адчынілі харчовы і рэчавы склады. Усім паўстанцам былі выдадзеныя новыя кажушкі, валёнкі, бушлаты, штаны, шапкі, рукавіцы. З гужавога транспарту быў арганізаваны абоз на васьмі падводах.

Частка зьняволеных, пераважна непалітычныя, не паддаліся на ўгаворы ўдзельнічаць у паўстаньні, разьбегліся па кутах у зоне і за яе межамі.

Тым часам у "Лесарэйдзе" з 141 чалавека, адзетага і абутага ва ўсё новае, канчаткова згадзіліся на выступ 109. Тыя, хто згадзіўся, рушылі на Усьць-Усу.

Першы напад быў на будынак камэры папярэдняга зьняволеньня. Паўстанцы вызвалілі 38 чалавек, 12 зь іх згадзіліся далучыцца да іх. А ў гэты час другая група паўстанцаў падступіла да будынку пошты. Да вечара будынак ужо быў узяты.

Яшчэ адна група паўстанцаў імкнулася захапіць аэрадром, дзе ў гэты час былі два самалёты. Але ахова сустрэла паўстанцаў агнём. Тыя вымушаныя былі адступіць.

Свайго апагею бой дасягнуў каля будынку міліцыі. Тым часам праз радыёбюро ўправы параходзтва ў Сыктыўкар пайшла тэлеграма пра паўстаньне. Бой за будынак міліцыі ўзмацніўся. Падыйшлі яшчэ 16 байцоў ваенізаванай аховы параходзтва. Стральба не сьціхала ні на хвіліну. Усё часьцей скрываўленыя людзі сталі зьяўляцца і на парозе лякарні.

... Дзень 24 студзеня скончыўся. Пасьля паўночы на дапамогу усьцьусінцам прыбылі 15 стралкоў з Поле-Кур'і. Перавага сілаў схілілася на бок тых, хто абараняўся. Адчуўшы гэта, паўстанцы адступілі: на дзесяці падводах рушылі ўверх па Пячоры. Адступленьне больш нагадвала ўцёкі і ў выніку гэтага большая частка паўстанцаў у розных канцах сяла была кінутая на волю лёсу. На наступны дзень усе паўстанцы, якія засталіся ў жывых, на саракаградусным марозе былі пастаўленыя перад будынкам міліцыі на калені з рукамі за галавой. І на каленях іх прымусілі паўзьці да турмы.

Позна ноччу 25 студзеня пра паўстаньне стала вядома і ў наркамаце ўнутраных справаў Комі АССР. Адразу ж у кабінэце наркама С.Кабакова быў склікаты ўвесь апэрсклад наркамату. На наступны дзень загадам наркамату ў Усьць-Усе была ўведзена камэндацкая гадзіна. А ва ўсіх населеных пунктах басэйна ракі Пячоры на тэрыторыі рэспублікі былі арганізаваныя назіральныя пастарункі. Да прыкладу, у Абезі на гэтую справу мабілізавалі нават школьнікаў. У іх ліку быў і вучань сёмай клясы Алег Яфрэмаў, цяпер вядомы актор і рэжысэр (бацька Алега, Мікалай Іванавіч, адбываў тут зьняволеньне).

Найстражэйшы, які толькі магчыма, рэжым быў устаноўлены і ў лягерах. Каб учуць у асяродку зьняволеных нават шэпт, нават намёк на паўстаньне, была задзеена ўся лягерная агентурная сетка.

Але яшчэ доўга ў пячорскай тайзе зьнішчалі асобныя групы паўстанцаў, якія працягвалі свой адчайны супраціў. А пасьля пачалася крывавая расправа. Забівалі жывых і дабівалі параненых. Ул.Півавараў і тыя, хто з кіраўнікоў паўстанцаў застаўся ў жывых, былі дастаўленыя ў сыктыўкарскую турму НКВД. На працягу двух месяцаў цягнулася сьледзтва. 30 сакавіка 1942 году, згодна з пастановай асобай нарады НКВД СССР, 26 удзельнікаў паўстаньня, у тым ліку і Ул.Піваварў, былі расстраляныя...

Першае гулагаўскае паўстаньне стала мужным актам супраціву бязьвінна асуджаных людзей.

**Ігар Кузьняцоў**

# ПАРТЫЗАНСКІМІ СЬЦЕЖКАМІ — ІІ*

На поўдні Слонімскага раёну, каля мяжы з Івацэвіцкім, пачынаецца знакаміты лес Воўчыя Норы. У апошнюю вайну тут базаваліся шматлікія партызанскія атрады розных палітычных кірункаў. Паводле некаторых зьвестак, менавіта тут знаходзіўся Штаб Беларускае народнае партызанкі, які ачольваў былы савецкі афіцэр Іван Шанько. Гэты лес добра памятае й першыя пасьляваенныя гады, калі ў Воўчых Норах зноў пачалі фармавацца партызанскія атрады, на гэты раз ужо антыкамуністычныя. Іншы раз з поўдня сюды прыходзілі рэйдавыя аддзелы УПА. Толькі пасьля зьнішчэньня апошніх змагароў у 50-ыя гады, саветы ўзялі Воўчыя Норы пад свой кантроль ды пабудавалі тут сваю ракетную базу. Так славуты партызанскі лес апынуўся пад акупацыяй...

Ня я першы шукаў у Воўчых Норах былых удзельнікаў народнай партызанкі. Адразу пасьля вайны сяляне былі запалоханыя "сьледапытамі" з МГБ, якія намагаліся выявіць беларускіх партызанаў і іх крэўных, якія засталіся ў жывых. У лепшым выпадку ім пагражала высылка ў Сібір. А на пачатку 70-х гадоў у гэтых мясьцінах зьявіўся былы савецкі партызан, пісьменьнік Уладзімер Калесьнік, які пасьля на бачынах "Голасу Радзімы" напіша пра "нацыянальны сэпаратызм" Беларускае народнае партызанкі ды пра тое, што ейны камандзір І.Шанько "заслугоўвае пятлі"...

Мала хто ведае, як узьнікла народная партызанка. Як сьведчаць былыя яе ўдзельнікі, яшчэ ў 1941 годзе, ратуючыся ад нямецкіх рэпрэсіяў, у лес былі вымушаныя пайсьці сотні актывістаў Кампартыі Заходняе Беларусі, Таварыства Беларускае Школы, Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады. Беларускія патрыёты аб'ядноўваліся ў невялікія групы й перахоўваліся каля сваіх вёсак і мястэчак. Былы камандзір атраду Беларускае народнае партызанкі Язэп Таўпека успамінае: "Зімой 1941 году ў лесе была амаль выключна нашая партызанка, вядома, цесна зьвязаная зь вёскай, яна больш перахоўвалася ў вёсках, чым у лесе. Першыя дэсантныя групы большага памеру былі скінутыя з самалётаў у 1942 г., і тады вось яны выдалі загад усім "прымакам", як "ваеннаабавязаным", зьявіцца ў лесе пад пагрозаю расстрэлу як дэзэртыраў тых, хто ня зьявіцца. Немцы, пабачыўшы гэтае, загадалі ўсім паланным, хто яшчэ не пайшоў у лес, зьявіцца на зборныя пункты і адправілі іх у лягер (каб і яны не пайшлі). Хто ўцалеў, вядома, пабег сам у лес. Але ня ўсе ўліліся ў савецкую партызанку, многія далучаліся да нашых атрадаў і так паўстаў не адзін мяшаны атрад".

Народная партызанка, якая стыхійна арганізоўвалася для самаабароны, не праводзіла актыўных нападаў на немцаў. Спачатку яе галоўнай мэтай было захаваньне жыцьця людзей, якія былі вымушаныя перайсьці на нелегальнае становішча. У лес сяляне ішлі цэлымі сем'ямі й нават вёскамі. Таму партызанскія лягеры й былі падобныя на вялікія лясныя вёскі, у якіх спраўляліся вясельлі, хрысьціліся дзеці, адзначаліся сьвяты, ішла звычайная сялянская гаспадарчая работа.



*На здымках: (зьлева направа) Якуб Харэўскі (Новік, родам зь вёскі Харэва Пружанскага раёну), Язэп Таўпека й Іван Перагуд — камандзіры атрадаў.*

Толькі ў 1942 г. гэтая партызанка структурна аформілася й набыла ідэалёгію. Да стварэньня народнае партызанкі спрычыніліся падпольная арганізацыя Беларуская Народная Грамада, якой кіравалі былыя заходнебеларускія камуністы й сацыялісты.

У ліпені й лістападзе 1942 году адбыліся дзьве канфэрэнцыі камандзіраў патрыятычных партызанскіх атрадаў і прадстаўнікоў палітычнага кіраўніцтва — Грамады. Яны рэпрэзэнтавалі Піншчыну, Івацэвічы, Слонімшчыну, Ружаншчыну, Косаўшчыну й некаторыя іншыя раёны Заходняй Беларусі. Ужо на першай нарадзе была ўтворана Лава атаманаў і была прынятая праграма дзеяньняў. Успамінае Я.Таўпека: "Гэтая нарада, ці як было прынята называць "лава" камандзіраў (атаманаў), ухваліла становішча палітычнага цэнтру стасаваць у партызанцы засаду пераграваньня. Утрымаць на магчымасьці ўсіх збройных сілаў да часу, калі яны будуць патрэбныя, каб вырашыць долю нашага народу й краю. Пастаноўлена было папярэдзіць савецкія групкі партызан, што на выпадак далейшых разбояў, грабяжоў і праваў, да іх застасуецца зброя".

На лістападаўскай нарадзе быў утвораны Галоўны Штаб Беларускае народнае партызанкі на чале з Іванам Шанько. На арганізацыю цэнтральнага кіраўніцтва народнае партызанкі паўплывала на толькі актыўнасьць савецкіх дэсантаў, але й стварэньне ў кастрычніку 1942 г. на Валыні першых аддзелаў Украінскай Паўстанчай Арміі, зь якой беларускія партызаны мелі сувязь і праводзілі супольныя акцыі.

Хто ж ён, камандзір народнае партызанкі? Былыя партызаны называюць яго маёрам Чырвонай арміі, якому Лава атаманаў падвысіла рангу да палкоўніка. Але ў Цэнтральным архіве Міністэрства абароны Расейскае Фэдэрацыі асабістая справа маёра Шанько адсутнічае. Аднак удалося адшукаць дакумэнты малодшага лейтэнанта Шанько Івана Мікалаевіча, 1910 г. нар., ураджэнца Магілёва. На жаль, у ягонай асабістай справе 227919 паперы абрываюцца 1940 годам, калі Шанько быў прызначаны камандзірам узвода 366-га стралковага палка 126-й стралковай дывізіі Прыбалтыйскай вайсковай акругі. Ці той гэта чалавек? У мяне на гэты конт няма сумневаў — так, гэта той самы камандзір Беларускае народнае партызанкі! На пачатку вайны ён мог быць ужо лейтэнантам. Пакуль невядома, як Іван Шанько пад час нямецкае акупацыі апынуўся на Берасьцейшчыне. Магчыма, яму давялося пабываць у лягеры ваеннапалонных у Польшчы й пашчасьціла адтуль уцячы. Назваўца маёрам Чырвонае арміі ён мог сам або на гэтым настаялі іншыя камандзіры (дарэчы, пераважна людзі не вайсковыя, але з досьведам антыпольскай партызанскай барацьбы), каб узьняць аўтарытэт начальніка Галоўнага Штаба. Як паказалі далейшыя падзеі, лейтэнанту Шанько не хапіла на ягонай пасадзе вайсковага досьведу й адукацыі, а таксама палітычнае мудрасьці.

Кіраўнік пракамуністычнага Берасьцейскага міжраённага "Камітэту барацьбы зь нямецкімі акупантамі" Я.Урбановіч спрабаваў паразумецца з камандаваньнем Беларускае народнае партызанкі. На ягоную прапанову далучыцца да "Камітэту" партызаны Шанько паставілі наступныя ўмовы: у ім павінны быць толькі жыхары Заходняй Беларусі з парыэтэтным лікам камуністаў і грамадоўцаў, а таксама прадстаўнікоў іхных партызанаў; савецкія партызаны павінны спыніць праваўкацыі й непрадуманыя збройныя напады на немцаў, якія прыводзілі да гібелі беларускіх сялян і паленьня вёсак. Аднак Урбановіч ня мог выканаць усіх гэтых умоваў, тым больш, што штаб Панамарэнкі патрабаваў ад яго зусім іншага...

Менавіта пры пасярэдніцтве Урбановіча й была арганізаваная дзесьці ў чэрвені 1943 г. сустрэча палкоўніка Шанько з камандзірам савецкіх дэсантнікаў Ліньковым. Шанько, не паразумеўшыся з палітычным кіраўніцтвам народнае партызанкі, зьявіўся на ўмоўленае месца, узяўшы з сабой толькі аднаго дасьведчанага партызана Мікалая Скрундзя ("Ваўкалак"). Палкоўнік Лінькоў прыбыў з двума дэсантнікамі, што было парушэньнем папярэдняй умовы. Ён запрапанаваў Шанько пагаварыць сам на сам, адыйшоўшы ад сваіх людзей на некалькі дзясяткаў мэтраў.

Атаман Якуб Харэўскі, напаўна, са словаў Урбановіча й Скрундзя, гэтак апісвае кароткую размову афіцэраў:

"Лінькоў бесцырымонна зажадаў, каб Шанько падпарадкаваўся яму, як былы савецкі маёр, і падпарадкаваў яму атрады. За тое прапанаваў яму месца свайго памочніка ў кіраўніцтве партызанскага руху Палесься, вызначаючы сябе на кіраўніка гэтага руху. Калі Шанько адказаў яму, што ані ён асабіста, ані Беларускі партызанскі рух яму, як высланніку СССР, не падпарадкуецца, "Льдоў" выхапіў наган і срэліў у грудзі палкоўніка Шанько"...

Стэрарызаваўшы Скрундзя, энкавэдысты змусілі яго прыехаць у атрад Шанько й абвесьціць, што іх камандзір... паляцеў у Маскву на перамовы, а часовае камандаваньне перадаў аднаму з падстаўленых Ліньковым дэсантнікаў. Хутка пасьля гэтага тым самым спосабам людзі Лінькова замардавалі сотні беларускіх партызанаў, у тым ліку атаманаў: Бокана, Лесьніка, Патрубейку, Суворага, Канстанчука...

Калі Язэп Урбановіч даведаўся пра забойства й нават стаў сьведкам аднаго зь іх, ён закрычаў на Лінькова: "Што вы робіце?!" Той толькі адказаў: "Я выконваю інструкцыю Штаба". І ўсё ж Урбановіч праз сувязную Грамады ў Івацэвічах (пасьля павешаная на загад "Льдова"), пасьпеў папярэдзіць пра небясьпеку некаторых камандзіраў народнае партызанкі. Многія зь іх ужо мелі запрашэньні на "перамовы". Тым ня менш, большасьць беларускіх атрадаў або былі захопленыя чэкістамі або самыя былі вымушаныя падпарадкавацца савецкаму кіраўніцтву. Як успамінае Таўпека, "пасьля захопу атрадаў, сем'і партызан пад аховай дывэрсантаў былі аддзеленыя ад мужчын і загнаныя ў іншыя месцы. Партызан, якія прабавалі непавінавацца або ўцякаць, каралі зьнішчэньнем сям'і закладнікаў". Некаторым партызанам удалося вырвацца з лесу й яны ўвайшлі ў аддзелы Беларускае Самаахоўы Слоніма, Быценя, Косава, а летам 1944-га выехалі на Захад. Каля шасьці атрадаў Беларускае народнае партызанкі, у тым ліку й атамана Таўпекі, здолелі захаваць сваю незалежнасьць і яшчэ колькі гадоў ваявалі супраць бальшавікоў. Летам 1944 году савецкае кіраўніцтва накіравала многіх былых удзельнікаў народнае партызанкі ў штрафбаты, дзе яны й загінулі... Але гэта ўжо асобная тэма.

Язэп Урбановіч ("Максім") зашмат ведаў пра злачынствы чэкістаў на Берасьцейшчыне, таму яго й не маглі пакінуць у жывых. 10 ліпеня 1944 г., калі ўжо ўцяклі немцы й падыходзіла Чырвоная Армія, да яго прыехалі нейкія дэсантнікі. Адзін зь іх запытаўся: "Ты Урбановіч?" І атрымаўшы станоўчы адказ, са словамі "Я тебя искал", расстраляў яго. Кажуць, што забойцаў неўзабаве павесілі. Ці не для таго, каб не назвалі імёнаў тых, хто аддаваў ім гэты злачынны загад?

І усё ж ёсьць нейкая справядлівасьць. Галоўны кат і забойца Рыгор Лінькоў не пазьбег пакараньня. У сьнежні 1961 г. ён быў застрэлены сваім шаснаццацігадовым сынам.

**Сяргей Ерш**

*Працяг сэрыі матэрыялаў. Пачатак у №37 за мінулы год.




У славутай Баркулабаўскай Кроніцы год 1597 апісаны зусім невыгодна: нядобры, бедны, няплённы. Праз 400 гадоў якім будзе наш 1997-мы?

*"Лета божага нараджэньня 1597 было Благавешчаньне ў пяток вялікі. Той рок вельмі быў нядобры. Былі харобы, болесьці размаітыя, многія, вялікія. Зіма была люта, сьнежна. На санях езьдзілі па сьвяце вялебным нядзелі дзьве. Пачалі араць пашню па сьвяце на пятай нядзелі, і то вельмі было гразна. Также і вада вельмі вяліка была, шкоду вялікую нізкім месцом і дваром, прудом пачыніла, платы, также і струбаў многа паразносіла".*

З гэтай цытаты мы пачынаем праект Календара юбілейных датаў "НН". Па магчымасьці ў наш каляндар будзе ўключацца ўсё, што вартае ўвагі, цікавасьці або параўнаньня. Такім чынам мы ўбачым масу паралеляў з ранейшымі часамі, людзьмі й падзеямі ў сьвеце і ў Беларусі. Штосьці будзе адлюстраванае артыкулам або мастацкім творам, штосьці гутаркай ці нават круглым сталом, а штосьці — толькі сьціплай нататкай.

Усе даты Календара — юбілейныя, г.зн. адпавядаюць кроку гісторыі ў 25 гадоў — акурат пэрыяд зьмены пакаленьняў, час пераацэнкі спадчыны, час назапашваньня новага досьведу. Усе згаданыя даты паўторацца праз чарговыя 25, 50, 75, 100 гадоў. Некаторыя забудуцца, некаторыя загучаць яшчэ больш актуальна, чым сёньня, сьведчачы пра вечную акутальнасьць нашае культуры і самога жыцьця.

1997-ы стаў юбілейным для наступных істотных падзеяў, дакладныя даты якіх пакуль што неявядомыя:

1000 гадоў таму ўпершыню згадваецца Оўруч — старажытны палескі горад на левым беразе ракі Нарын, былая сталіца драўлянаў. У 1320 г. Оўруч быў захоплены Гедымінам, а ў 1394-м яго канчаткова далучыў да ВКЛ Вітаўт.

900 гадоў першае пісьмовае згадкі пра Пінск, тады горад належаў вялікаму кіеўскаму князю Сьвятаполку і ўваходзіў у склад Турава-Пінскага княства.

850 гадоў першае летапіснае згадкі Гомеля.

575 гадоў Мельнскае дамовы, паводле якой Жмудзь (Жэмайція, сёньня Літва) увайшла ў склад Вялікага Княства Літоўскага.

550 гадоў прывілею для беларускіх праваслаўных магнатаў, які зраўняў іх у правах з жмудзкімі магнатамі каталікамі.

550 гадоў першай згадкі Радашкавічаў, якія належалі да каралеўскіх сталовых маёнткаў, а з 1576 г. сталі цэнтрам сельскага староства.

500 гадоў увядзеньня ў ВКЛ пасады гетмана вялікага —галоўнага вайскаводцы. У сенаце гетман вялікі займаў месца пасьля маршалкаў вялікіх.

500 гадоў назад татары забілі ў Скрыгалаве Кіеўскага мітрапаліта Макарыя.

450 гадоў таму Іван IV Жахлівы стаў першым расейскім царом.

400 гадоў герба Віцебску: "у блакітным полі вобраз Спаса Збавіцеля, і прытым зараз трохі ніжэй меч голы чырвоны, што ся маець разумець крывавы".

225 гадоў першага падзелу Рэчы Паспалітай паміж Расеяй, Прусіяй і Аўстрыяй.

75 гадоў назад — спроба Менскага мітрапаліта Мельхісэдэка абвясьціць аўтакефалію Беларускай Праваслаўнай Царквы. Такая аўтакефалія была аднагалосна абвешчаная толькі ў 1942 годзе на Ўсебеларускім Саборы ў Менску.

75 гадоў назад быў створаны СССР, які праіснаваў да 1991 г.

А вось некалькі юбілеяў, даты якіх нам вядомыя:

У студзені ў Слоніме нарадзіўся пісьменьнік Хацкель Дунец (1897), які на мове ідыш пісаў публіцыстыку і літаратурную крытыку (да вайны ў Менску выходзілі габрайскія часопісы і кнігі), а 29 кастрычніка 1937 г. быў расстраляны ў Менску.

У студзені адбыўся І зьезд Саюза кампазытараў БССР (1947) і выйшаў у сьвет першы нумар часопіса "Родная прырода" (1972).

*1 студзеня*

У гэты дзень нарадзіўся беларускі паэт Алесь Салавей (1922 –22.1.1978), адзін з найбуйнейшых прадстаўнікоў беларускай літаратуры на эміграцыі, які скончыў свой жыцьцёвы шлях у Мэльбурне (Аўстралія).

Таксама ў гэты дзень адзначылі свае 50-я ўгодкі ажно чацьвёра пісьменьнікаў: Марыя Філіповіч, Анатоль Кудраўцаў, Георгій Марчук і Яўген Хвалей. Яшчэ двое — Васіль Гігевіч і Іван Клімянкоў сьвяткавалі 50-годзьдзе адпаведна 3-га і 5-га студзеня.

*9 студзеня*

100-я ўгодкі празаіка і драматурга Васіля Шашалевіча. Ён нарадзіўся ў Мхінічах Краснапольскага раёну, атрымаў духоўную і юрыдычную адукацыю, напісаў п'есы "Апраметная", "Змрок", "Воўчыя вочы", "Рой", "Сымфонія гневу". Загінуў 23 кастрычніка 1941 у савецкім канцлягеры.

*19 студзеня*

1922 год. У ноч на 20 студзеня ў Вільні польскія ўлады арыштавалі Максіма Гарэцкага і пасадзілі на Лукішкі. Праз два тыдні яму выставілі абвінавачаньне "ў прыналежнасьці да партыі камуністаў, у арганізацыі тайных баявых дружын з мэтаю замаху на дзяржаўную ўладу, у друкаванай і вуснай прапагандзе". За ўсё гэта польскім Карным кодэксам прадугледжваўся сьмяротны прысуд ці, у лепшым выпадку, катарга. Праўда, суд не адбыўся. М.Гарэцкага выкінулі ў нэўтральную зону паміж польскім і літоўскім фронтам, адтуль ён дабраўся да Коўна, пасьля — у Дзьвінск, дзе 4 месяцы чытаў лекцыі на Беларускіх настаўніцкіх курсах, пакуль яго зноў не арыштавалі і не даставілі ў Вільню, дзе трымалі пад вартаю тры тыдні, а пасьля выпусьцілі пад заклад — да сям'і. Праз год, у кастрычніку 1923 г. Гарэцкі зь сям'ёй пераехаў у Менск, у 1930-м яго арыштавалі, выслалі ў Вятку і 10 лютага 1938 г. расстралялі.

*25 студзеня*

1972 год. У Менску нарадзіўся мільённы жыхар. Хто ён такі? І што зь ім цяпер? А як гарадзкія ўлады адзначаць юбілей? Ці будзе ўсеагульны карнавал з шэсьцем па праспэкце Ф.Скарыны?

Даты нараджаюць шмат пытаньняў...

*Працяг будзе.*

# Новая паліфанія

Цяпер ужо можна сказаць, што стварэньне творчага аб'яднаньня "Беларуская капэла" стала этапам ня толькі ў рэканструкцыі музычнай спадчыны Беларусі, але і ў яе экспэрымэнтальнай інтэрпрэтацыі. Сама структура канцэрта "Каляды ў Беларускай капэле", што адбыўся 9 студзеня ў Траецкім касьцёле (Сьв. Роха), дазваляе казаць пра тую сытуацыю, калі традыцыяналізм усьведамляецца як наватарства.

Першае аддзяленьне было цалкам прысьвечанае сакральнай музыцы. Сапраўды сэнсацыяй стала выкананьне твораў ананімных аўтараў XVIII ст. Большасьць твораў выконвалася ўпершыню ў сучаснасьці.

Адна заўвага на палях. У рэаліях Беларусі калядныя імпрэзы варта разьмяшчаць паміж 25 сьнежнем і 7 студзенем — паміж грыгарыянскімі ды юліянскімі Калядамі. У нашым выпадку, хутчэй за ўсё, былі тэхнічныя складанасьці, якія дазволілі правесьці канцэрт менавіта 9 студзеня.

Пад час канцэрту нечакана ўзьнікла новая паліфанія, калі ансамбаль "Клясык-Авангард" граў музыку каля алтарнай часткі касьцёлу, а сьпевы салістаў — Віктара Скарабагатава й Тамары Пячынскай, раптам пачуліся з боку ўваходу, ды яшчэ над галовамі. Салісты знаходзіліся на хорах. А дзе яшчэ мусяць быць сьпевакі ў касьцёле? Уражаньне ўзмацнілася самім сьвяточным аздабленьнем касьцёлу — з батлейкаю й елкамі. Так авангардам стала клясычная форма выкананьня музычных сакральных твораў.

Сьвецкай музыцы было аддадзенае другое аддзяленьне. Тут ужо быў дазволены й гумар "Курантаў" — ананімнага зборніку 1733 году ў апрацоўцы В.Капыцько, і праявам артыстызму Тацяны Цыбульскай. Калі сьпяваў Віктар Скарабагатаў, нарадзілася дзіўная думка пра тое, што гэты чалавек увойдзе ў будучую кнігу "Беларусь — 1996: грамадзтва супраць дыктатуры", у індэкс пацярпелых. Леташняй восеньню каля паштамту сьпевака затрымала міліцыя — з-за таго, што ён размаўляў пабеларуску. Трэба было гнаць недарэчную думку. Дапамог Кірыла Насаеў —кіраўнік хору "Унія". У харавым гучаньні для свайго калектыву ён пераклаў песьню Ф.Грубэра "Ціхая ноч". Зроблена гэткае было ў адмысловай папулярнай стылістыцы, якую сам кіраўнік хору назваў "галівудаўскай". Мэлёдыя настолькі спадабалася кіраўніку ансамбля "Клясык-Авангард" Уладзімеру Байдаву, што ён зрабіў яе арксстровую рэдакцыю.

"Ціхаю ноччу" скончаўся канцэрт "Каляды ў Беларускай капэле". То была зусім ня просьценькая мэлёдыя, а музыка супакаеньня, што найбольш адпавядала Каляднаму часу. Застаецца дадаць, што Ціхая ноч — гэта сынонім Калядаў.

**Алег Дзярновіч**

# Казані

Калі да менчука-тэатрала прыяжджае сябра, што цікавіцца навінамі сталічнае сцэны, той цяпер доўга не вагаецца, куды весьці госьця. Вядома, у Купалаўскі, на малую сцэну, дзе паказваюць дэбютную працу артыста-драматурга Дзьмітрыя Бойкі і ўжо ня першую — артыста-рэжысэра Аляксандра Гарцуева "Крывавая Мэры". Непарушны аўтарытэт менскай тэатральнай тусоўкі Мікалай Пінігін не знайшоў, кажуць, што раскрытыкаваць у гэтай пастаноўцы і толькі кінуў разгублена: "Аднак, Эўропа". Тыя, хто прэтэндуе на дасьведчанасьць у тэатральным працэсе, вызначаюць: "Абсурд па-беларуску". Гледачы менш заадукаваныя проста радуюцца: "Пра каханьне. І кранае нешта ў душы". Прафэсіяналы асьцярожна прызнаюць: беларускі тэатар некуды рухаецца, і "Крывавая Мэры" — адна з адметных вехаў на шляху.

Сапраўды — і абсурд, і "пра каханьне". Клясычны абсурд, без інтрыгі і галоўнае ідэі, проста ілюстрацыя да праблемы непаразуменьня накшталт п'есаў Ёнэска, быў бы тут задужа абстрактнай рэччу. Ад спадчыны Ёнэска засталіся ня вельмі складныя дыялёгі, што паўтараюцца ў розных варыянтах, гульня са словамі і даволі эксцэнтрычны сюжэт, што амаль не суадносіцца зь сюжэтамі жыцьцёвымі. Ён і яна, муж і жонка, уцягваючы адзін аднаго ў бясконцыя высьвятленьні адносінаў, намагаюцца ўспомніць сябе ў момант першае закаханасьці: ён купаўся ў моры, яна паклікала на дапамогу, ён вынес яе на бераг, яна расплюшчыла вочы і прашаптала: "Майн лібэр фюрэр". І тыя ж ён і яна, якімі былі ў момант першае закаханасьці, прыходзяць да сябе састарэлых і таксама просяць дапамагчы... Усё наступнае — вядомае, дзеля таго, каб яны нарэшце прыгадалі: тады, на ўзьбярэжжы, пасьля цудоўнага выратаваньня, яна прамовіла не "майн лібэр фюрэр", а "я цябе кахаю".

Мараль, здаецца, даволі простая і не пра яе спрачаюцца аматары тэатра і тэатразнаўцы. Увогуле, любая мараль простая і даўно выкладзеная ў адной са сьвятарных кніг. Увесь сэнс у тым, як яе выкласьці наноў. Сэнс у энтузіязьме актораў, што тлумачаць спосаб ужываньня нейкага "мюмізму" ці доўжаць сьпісы ўмоўна падобных словаў (вадкасьць, трываласьць, бульбянасьць і г.д.) так, быццам кажуць пра галоўнае ў жыцьці. І, ня гледзячы на недарэчнасьць словаў і сытуацыяў, можна паверыць: перад табою разгортваюцца зусім рэальныя сцэны. А на тэкст пасьля прагляду проста забыцца і згадваць імпрэзу як музычны канцэрт пра чыстыя эмоцыі.

Вось гэта і называюць тэатрам абсурду па-беларуску. Ён не патрабуе ад гледача бесстаронна заглыбляцца ў адцягненыя праблемы камунікацыі, але хоча, як і ранейшы сацрэалізм, давесьці нешта прынцыповае для аўтара. І, як і належыць стварэньням, што адухоўленыя прапаведніцікім натхненьнем, гэтая "абсурдысцкая" п'еса здаецца больш цёплай і душэўнай, чым тое, што лічаць абсурдам у астатнім сьвеце. Яна кранае сэрца нават непадрыхтаванага гледача і паралельна паціху знаёміць са здабыткамі

# Нешта з Вагнэра...

*Ігар Саўчанка, Надзея Кароткіна. Па той бок банальнасьці. Творчая лябараторыя Sequenda*

Галерэя "6-я лінія" яшчэ раз пацьвердзіла сваю рэпутацыю адзінага месца ў Менску, дзе могуць адбывацца канцэптуальныя мастацкія акцыі. 10 студзеня тут адкрылася пэрсанальная выстава менскага фотамастака Ігра Саўчанкі "Па той бок банальнасьці". Ягоная творчасьць добра вядомая ў Беларусі, дзякуючы шматлікім публікацыям у пэрыёдыцы, у прыватнасьці, у колішняй "Крыніцы". Куратарам і, адпаведна, да некторай ступені суаўтарам, была Надзея Кароткіна.

... Поўная паветра заля патанае ў паўзмроку, наведнікі няўпэўнена пасоўваюцца ўздоўж сьцяны, да сьвятла, якое ашчадна асьвятляе частку экспазыцыі. Тры крыніцы асьвятленьня вымушаюць гледача ахапіць экспазыцыю адным позіркам, не пакідаючы ілюзіяў на самастойнае ўспрыманьне... Зь левага кута залі на ўзроўні вачэй бязьлітасна б'е жоўтае сьвятло маленькага сонца, мадэлі сонца, ад якога адбіваюцца матэрыяльныя промні, працінаючы пустату жорстка й канкрэтна.

Глядач імкнецца разгледзець праз штучную аптычную смугу самі выявы, расчытаць хуткапіс аўтарскіх подпісаў... Але крок за крокам здымкі падымаюцца ўсё





Здымак Алены Адамчык

Севярын Квяткоўскі

# СЬВЕТКА

Апавяданьне

Учора я налякаў Сьветку — параіў ёй не выходзіць замуж за таго адстаўніка. Сьветка вельмі спужалася маіх словаў, хоць я й сказаў толькі, што яна дачакаецца пэнсіі, стоячы за смажаньнем аладкаў, і ня тое што ўцехаў, нават пляцка па азадку не атрымае. Ну сапраўды, куды ёй чацьверты раз фату апранаць?!

Я глядзеў, як Сьветка нацягвае на свае абрузглыя сьцёгны вузенькія джынсы, і казаў, што лепей паглядзець у газэце аб'яву, у якой "малады хлапец шукае забясьпечаную даму..." Дзіўна, яна не расьсьмяялася, і не раззлавалася, а менавіта спужалася. Я рэдка зь ёй размаўляю. Ды й яна ня вельмі ўважлівая. Можа гэта ўзрост? Сьветцы неўзабаве стукне пяцьдзясят гадкоў...

Ды халера зь ёй. Мне сумна. Апошнім часам я адчуў, што вонкавы сьвет мяне не зьдзіўляе. Ён часам уражвае і нават узрушвае, але ўсё, што можа зьдзівіць, я знаходжу адно ў сабе. Праўда, гэта здараецца ўсё радзей і радзей. Асабліва цяжка даводзіцца ўначы, калі абгострываецца адчуваньне рэальнасьці. Наплываюць успаміны пра нейкія нерэалізаваныя жаданьні, і немаведама адкуль узьнікаюць алюзіі ўжо даўна нецікавых перажываньняў. Што можа быць больш недарэчным, чым успамін пра нерэалізаваныя жаданьні, калі штодня нараджаюцца новыя?

Калі я гляджу на Сьветку, мне падаецца, што ў ейным жыцьці жаданьняў было ня больш за тузін, і што пры-

Уладзімер Арлоў

# ПЯЦЬ

*Ахвярую калегам з "Бум-Бам-Літу"*

Цудоўна аднае раніцы прачнуцца знакамітым, прыемна расплюшчыць вочы ў ложку з прытомленай любоўнымі ўцехамі сьветласкураю куртызанкай, але, дайце веры, зусім няблага і проста адарваць на досьвітку галаў ад падушкі ў стандартным нумары з кандыцыянэрам, каб праз хвіліну нырцануць у аточаны фінікавымі пальмамі басэйн, дзе пакуль што няма тапельцаў у строгіх эўрапейскіх гарнітурах з моднымі гальштукамі, а таму можна ціхамірна плаваць, глядзець на пудовыя гроні сьпелых фінікаў, слухаць, як у гулкім паветры муэддыны спаборнічаюць зь пеўнямі, і думаць, што ўсё гэта — няхай і не экватарыяльная зь яе гіпапатамамі і імпэратарамі-канібаламі, але — Афрыка.

Учора твой ручнік таксама ляжаў на шэзьлёнгу пад мандарынавым дрэвам, але твая істота заставалася ў абладзе выжлуктанага на берасьцейскай мытні піва, выпітых у варшаўскім аэрапорце трох філіжанак кавы з каньяком і рассмакаванага над Сіцыліяй чырвонага віна, што ўтварылі кактэйль, які ніяк не хацеў здаваць сваіх пазыцыяў чыстай, як сьлёзы тутэйшага прэзыдэнта Бэн Алі, інжыравай гарэлцы, і тут нічым не маглі дапамагчы ні купаньне ў хвалях Левантыйскага Понту, ні прыморская ювэлірная крама, у якой за пяць хвілінаў кошт ланцужка з падазронага золата з 360 дынараў упаў да 60, ні грунтоўна загаджаны свойскімі гусямі дворык міжнароднага тэлефоннага пункту, дзе за дзесяць даляраў удалося сэкундаў трыццаць пагаварыць зь Менскам. Учора ты яшчэ знаходзіўся ў Эўропе, паўнамоцным прадстаўніком якой да самае паўночы была пляшка "Беларускага бальзаму", а сёньня нарэшце прачнуўся ў Афрыцы і замест аскомістага матыўчыку, што прычапіўся да цябе ў самалёце, у галаве круціцца сьвежая, як ранішняе паветра, мэлёдыя, народжаная тутэйшаю тапанімікай:

Сус, Сахэль, Эль Кантаё,
Карфаген, Габэс, Эль Джэм...

Сус — горад, дзе ты пялёскаесься ў басэйне. Эль Кантаё — імя гарадзкога порту. А Карфаген — мэта тваёй першай афрыканскае вандроўкі.

За вакном аўтобуса плывуць пакрытыя аліўкавымі гаямі спадзістыя адгор'і Атласу, дзе палююць на неабачлівых турыстаў бязьлітасныя атлаские ільвы. Каля антычнае калёны на пустэльным скрыжаваньні "галасуе" пад аліваю арабка ў белым строі.

Гэта — Туніс.

Гены ягоных жыхароў памятаюць фінікійцаў і рымлянаў, бізантыйцаў і сіцылійскіх нарманаў, гішпанцаў і туркаў... Пакуль дадаеш да пераліку вандалаў Гэйзэрыха, якія сьцвярджалі сваю ўладу, адбіваючы ў антычных статуяў насы і геніталіі, генуэзцаў, што пабудавалі над морам свае змрочныя, падобныя да гіганцкіх чарапахаў фартэцыі, і французаў, якія пайшлі адсюль толькі сорак гадоў таму, наўзбоч аўтастрады вырастае жывая ілюстрацыя да тваіх этнагістарычных развагаў. Сьпярша гэтае фантасмагарычнае відовішча прымаеш за фатамаргану: перад табой перанесеная з палатна Пітэра Брэгеля Бабілёнская вежа, вяршыня якое хаваецца ў туманным воблаку. Здаецца, праз імгненьне тваё вока пачне адрозьніваць на схіле гары прылады працы і мурашыныя постаці будаўнікоў, што кінулі выклік Богу...

Да думак пра мэнтальнасьць тунісійцаў ты вернесься праз пару гадзінаў, калі сярод 184 прывезеных з Карфагену калёнаў сталічнай Вялікае мячэці адаб'есься ад спадарожнікаў і разгубленa адчуеш, што канчаткова заблытаўся ў раскінутым за брамаю Баб эль Бахал нераце Мэдыны — сярэднявечнага арабскага гораду зь нялічанымі сотнямі крамак, майстэрняў і кавярняў, дзе не ступала нага жанчыны. Але адначасна зь велізарным зьдзіўленьнем усьвядоміш і іншае: ад гэтых пакручаста-гарбатых прыцемных вулачак і іхніх смуглых насельнікаў на цябе вее не трывогаю, а спакоем, і ты пачуваесься ў стакроць большай бясьпецы, чым аднойчы ў гэткай самай сытуацыі ў турэцкіх кварталах Заходняга Бэрліну. Ты задаволена канстатуеш, што ў крыві ў тунісійцаў несумнеўна адкла́ліся шэсьць стагодзьдзяў уладараньня высакародных рымлянаў. Ніхто не акідвае цябе ліпучым позіркам, ніхто не хапае за руку і ня просіць дынар, хоць ты ўжо на ўсялякі выпадак падрыхтаваў колькі манэтаў і пяцідынаравую купюру з профілем Ганібала. Затое кожны сустрэчны гатовы зразумець тваю ангельскую мову і паказаць дарогу да авэню першага прэзыдэнта Хабіба Бургібы.

На гэтай авэню цябе чакае ўрок найноўшае гісторыі Тунісу, і ты пераконваесься, што бізантыйцы таксама ня білі тут бібікаў.

Хабіб Бургіба заняў сваё крэсла ў 1956 годзе, пасьля чаго ўдзячны электарат, не пакутуючы на празьмерны піэтэт да канстытуцыі (яна дазваляла аднаму чалавеку стаяць на чале дзяржавы ня болей за два тэрміны), чатыры разы перавыбіраў бацьку нацыі на новыя пяць гадоў і нарэшце, зьнясілены ўласнаю палітычнай актыўнасьцю, прагаласаваў за пажыцьцёвае прэзыдэнцтва. А калі ты даведаесься, што цэнтральны сталічны пляц носіць імя 7 лістапада, усьцяж твайго хрыбетніка сьлізгане зьмейка містычнага халад-

Уолт Уітмэн

# Пераможанаму эўрапейскаму рэвалюцыянэру

І ўсё ж трымайся, браце мой, мая сястра!
Не спыняйся, Свабодзе патрэбная падтрымка пры любых здарэньнях.
Нічога, што Свабода прыгнечаная адной, дзьвюма ці шэрагам паразаў,
Абыякавасьцю ці няўдзячнасьцю народу
Альбо яшчэ якой здрадай,
Праяўленьнем уладных іклаў, жаўнераў, гарматаў, карных законаў.

Тое патаемнае, у што мы верым,
Бесьперастанна чакае нас на ўсіх кантынэнтах.
Не запрашае нікога, не абяцае, перабывае
Ў цішыні й спакоі, упэўненае й сфармаванае,
Не прызнае слабасьці духу,
Чакаючы цярпліва свайго часу.

І я ўхваляю ня толькі вернасьць,
Але й сьпяваю ў гонар бунту,
Бо я пясьняр усіх бясстрашных змагароў сьвету.
І той, каму са мной па дарозе,
Пакідае свой утульны штодзённы расклад,
Ставіць на карту жыцьцё — яно можа спыніцца зьнянацку.

Змаганьне ў разгары: шмат гучных набатаў і чаргаваньне —
наступ-адступленьне,
Трыюмф ворагаў ці ўяўленьне імі трыюмфу;
Турма, шыбеніца, наручнікі, мэталёвы ашыйнік, кайданы чыняць сваё;
Знакамітыя й проста героі адыходзяць у іншы сьвет,
Вялікія пісьменьнікі й прамоўцы высланыя, марнуюцца на чужыне;
Справа сьпіць, наймацнейшыя горлы захлынаюцца ўласнай крывёю;
Сустракаючыся, юнакі апускаюць вочы.
Не зважае на гэта Свабода, яна тут, не пакідае гэтага месца:
ворагі захапілі ня ўсё.

Калі Свабода сыходзіць — яна сыходзіць ня першай, не другой і ня трэцяй.
Яна чакае, пакуль пойдуць усе, і сыходзіць апошняй.
Калі ўжо ня будзе памяці пра герояў і мучанікаў
І калі ўсё грамадзтва й душы людзей ва ўсім сьвеце зьмярцьвеюць,
Тады толькі Свабода й ідэя Свабоды
Выкрасьляцца з прасьцягаў Зямлі,
І ворагі возьмуць усё.

Але трымайся, эўрапейскі бунтару, бунтарка!
Ты не павінен спыняць стараньняў.

Я ня ведаю тваёй місіі, ня ведаю ўласнае місіі:
якая мэта ўсяго?
Нат пераможаны, шукацьму ісьціну гэтага,
У паразе, неразуменьні, нястачы, прыгнёце —
Бо катэгорыі гэтыя велічныя.

Мы ацэньваем перамогу як вялікае?
Так, але цяпер, думаю я, калі перамога немагчымая, вялікае — у паразе.
І ў сьмерці, і ў трывозе — вялікае...

*(1856)*

Пераклад з ангельскай мовы Вольгі Караткевіч

намсі палову зь іх яна не рэалізавала. Я выказаў свае думкі Сьветцы, а яна так тарганулася, што пашкодзіла замок у сваіх навенькіх "Levi's". Што да мяне, я на сёньняшні дзень маю, бадай, толькі адно трывалае жаданьне — спаць бяз сноў.

Раней я клаўся ў ложак, нібы сядаў перад экранам тэлевізара, маўляў: што навенькага сёньня пабачым? Але цяпер мне гэта не цікава. Тым больш, што цяпер у прынцыпе цяжка заснуць — ляжу гадзінамі, і лічу начныя цягнікі, што час ад часу грукочуць за вакном. Я чуў, што ў такіх выпадках добра дапамагае гарэлка. Але, калі меркаваць па твары Сьветчынага адстаўніка, гэта ня самы ўдалы сродак.

Зь іншага боку, цяпер я разьлюбіў прабуджэньне. Навошта прачынацца, калі ўсё, што будзе, вядомае наперад? Прынамсі, у дасягальнай будучыні. А ў недасягальнай неспадзяваны — толькі час здарэньняў. Праўда, розныя людзі, асабліва маці, спрабуюць мне намаляваць нейкія сьветлыя далі. Але я гляджу на іх, і думаю, а дзе ж падзеліся іхнія сьветлыя далі? Я зайздрошчу людзям, якія не спыняюць мроіць аж да сьмяротнага ложку. Тая ж Сьветка — глядзіць на свае абвіслыя да пупа грудзі, і таксама аб чымсьці мроіць.

Па шчырасьці, бывае, што я сам сябе прымушаю мроіць, бо гэта дазваляе хутка заснуць... Дарэчы, мяне лічаць вельмі камунікабэльным чалавекам. Згодны — я люблю быць сярод людзей. Гэта адзін з сродкаў, каб пазбавіцца штосэкундавага адчуваньня сябе як рэчаіснасьці. Вехі чалавечага жыцьця —моманты ісьціны. Але ўсё жыцьцё ня можа быць бясконцым момантам ісьціны, інакш гэта будзе вельмі кароткае жыцьцё. Асабіста я нічога ня маю супраць такога варыянту, але, на жаль, інстынкт самазахаваньня ў мяне разьвіты ня менш, чым у іншых. Таму я дазваляю сабе ўсё тое, што навакольныя людзі: капрызы, істэрыкі, сьмех, плач, патас, зьдзек, пяшчоту, чульлівасьць і г.д. Карацей, забаўляюся. А што яшчэ рабіць?.. Сказаць шчыра? Я ведаю. Бо ведаю самае цікавае, што ёсьць у гэтым жыцьці. Тое, што надае яму сэнс і асалоду, тое, што заварожвае мяне, і пазбаўляе самоты — гэта сьмерць.

Цяпер мы рушым разам зь Сьветкай. Яна трымае мяне сваёй кастлявай і цёплай рукой за ўказальны палец. Сьветка борздка перасоўвае даўгія, нібы цыркуль, ногі, і сейны віслы азадак трасецца ля майго твару ў тахт няроўнай хадзе. Я бягу побач, але ўсё адно крыху адстаю. Вялікі букет пышных кветак, якія сьмярдзяць невыносна задушлівым пахам, валачэцца за мною па пыльнай дарозе. Мы спазьняемся на нейкае сьвята. Сёньня першага верасьня. Здаецца, гэта дзень пачатку Другой сусьветнай вайны?.. Не, маці казала, штосьці іншае наконт сёньняшняга сьвята. Па-мойму, зараз мяне вядуць "першы раз у першую клясу". Абяцалі, што будзе цікава. Паглядзім. У любым выпадку, сёньня я сумаваць ня буду. Калі мы зь Сьветкай вернемся з школы, я, як заўжды, буду да вечара альбо чытаць кніжкі, альбо залезу ў "Інтэрнэт" праз бацькаў кампутар. Потым будзе вячэра, а пасьля вячэры мае бацькі пойдуць у тэатар. Вось тут пачнуцца адносна цікавыя рэчы. Чамусьці Сьветка лазіць мыцца заўжды, калі сыходзяць гаспадары — мае бацькі. Яна кладзецца ў гарачую ванну, а праз колькі хвілінаў просіць, каб я памыў ёй сьпінку. Звычайна я мыю ёй нашмат больш, чым сьпінку... А мінулы раз Сьветка папрасіла, каб я памыўся разам зь ёю. Было казытліва, і сьмешна. Нават, крыху цікава... Дык вось, сёньня Сьветка йзноў пакліча мяне мыцца разам. І калі яна нагне сьпіну, упёршыся рукамі ў край ванны, я ўдару... Не, ня так. Калі будзем піць гарбату, я незаўважна падсыплю ёй снатворнае. У вадзе Сьветка засьне, і мне застанецца крыху націснуць ёй на галаву, каб паглядзець, як разам з бурбалкамі зь яе выходзіць жыцьцё.

Гэтыя думкі робяць мяне вясёлым і бестурботным, амаль шчасьлівым. Але самае непрыемнае ў шчасьці — усьведамленьне таго, што яно ня можа быць доўгім. Гэтая думка як паразіт смокча зь цябе радасьць, і прымушае яшчэ мацней угрызацца ў сваё шчасьце. Таму, бегучы цяпер за Сьветкай, я думаю аб тым, што ня буду забіваць яе сёньня, бо саме галоўнае ў шчасьці —ягонае перадчуваньне. Хай Сьветчын азадак яшчэ больш абвісае, хай яна выходзіць за свайго адстаўніка, і хай той мые ёй сьпінку хоць кожны дзень. Што мне зь Сьветчынай сьмерці? Усё, што можа мяне зьдзівіць, можа быць толькі ўва мне.

# ТРУПАЎ У БАСЭЙНЕ

ку. Гэты дзень стаўся ў тунісійскім календары чырвоным пасьля таго, як дзесяць гадоў таму замест абяцанай тэлепраграмаю перадачы на экранах узьнік прэм'ер-міністар (а па сумяшчальніцтву і міністар унутраных справаў) Зін эль Абідын Бэн Алі, які паведаміў, што нястомныя клопаты пра народ падступна падтачылі здароўе прэзыдэнта. Тыя, каго агарнуў лёгкі сумнеў, пачулі заверанае сямю дактарамі мэдычнае заключэньне. А неўзабаве, каб пераканацца ў непасіхным здароўі новага бацькі нацыі, ужо ня трэба было пстрыкаць уключальнікам тэлевізара, бо краіну — ад мэдрэсэ да прыдарожнага слупа ў Сахары — абклеілі рознакаліброваймі партрэтамі і партрэцікамі, зь якіх румяна і гладка прычасаны Бэн Алі сачыў, наколькі старанна выконваюцца ягоныя ўказы аб забароне палітычных партыяў.

У Карфагенскім археалягічным парку ты ўвачавідкі пераканаесься, што вядомая пастанова рымскага сэнату аб разбурэньні горада-суперніка пасьпяхова выкананая. Парк пачынаецца ўтульнымі зялёнымі прысадамі, дзе выстаўленыя маленькія саркафагі з прахам ахвяраваных Ваалу немаўлятаў. У пэрспэктыве на сапфіравай асноведзі мора адкрываюцца воку жаўтлявыя камяні фінікійскага порту. Аднак ты дарэмна спадзяваўся схавацца ад рызыкоўных палітычных аналёгіяў сярод абломкаў пунічнай і рымскай цывілізацыяў. Прэзыдэнтаў паўсюль фатальна цягне бліжэй да вечнасьці: адзін загадвае здаць на вечнае захаваньне свой аўтограф на ўласнай канстытуцыі, другі будуе палац за сотню крокаў ад сьвяцілішча Тафэль і тэрмаў Антонія. Калі ў твой кадар трапіць нават — крый божа — не замаскаваны балотнай мярэжаю бронетранспартэр з аўтаматчыкамі ў зялёных касках, а ўсяго толькі кавалак сьнежна-белага муру, за якім хаваецца прысадзістая рэзыдэнцыя тунісійца №1, далейшы лёс фота ці відэакасэты будзе залежаць ужо не ад цябе, а ад няўсьмешлівага чалавека ў цывільным, што вокамгненна падымаецца з-за бліжэйшага разложыстага кактуса.

Разьвеецца ты здолееш адвячоркам у гарадку мастакоў і рамесьнікаў Сідзі Бу Саідзе, чый рэльеф адразу прыводзіць на памяць "наш" Гурзуф. Тут, як амаль ва ўсім Тунісе, непадзельна пануюць два колеры: белы і блакітны. Белы — сьцены, блакітны —дзьверы, вокны, каваныя агароджы гаўбцоў і тэрасаў. Белы ў гэтых шыротах не патрабуе тлумачэньняў. Але выяўляецца, што і блакітны — не даніна эстэтыцы, а жыцьцёвая неабходнасьць, бо праз сіні колер, як сьцьвярджае твой праваднік Самір, не праляціць ніводзін камар. Гэты сакрэт быў вядомы яшчэ карфагенцам, якія мелі, трэба прызнаць, досыць спэцыфічную культуру: стварылі выдатныя агранамічныя трактаты, але нейкім чынам "забыліся" пра мастацкую літаратуру, што, на твой погляд, прычынілася і да паразы ў Пунічных войнах, і да зьнікненьня ў IV ст. нашае эры самой карфагенскай, дакладней, пунійскае мовы.



Белае і блакітнае. Выключэньне — мусульманскія гарады мёртвых. Тых, каго загортваюць у тканіну і кладуць у зямлю на правы бок тварам да Мэккі, камары даймаюць значна меней.

Пасьля вячэры ў бэрбэрыйскай вёсцы, дзе пажылы стомлены вярблюд цягне ў скураным мяху ваду са студні, дзе жанчыны апранаюцца ў чырвонае і замест танца жывата выконваюць нацыянальны танец клубоў, а мужчыны здатныя танчыць з драбінамі ў зубах альбо зь пірамідаю піўных бутэлек на галаве, дзе ў неабмежаванай колькасьці падаюць нядрэннае ружовае віно "Бахус" і нясмачны тунісійскі "кус-кус" — кашу з чырвоным сосам, у якую дадаюць рыбу, мяса, гародніну і, відаць, усё, што заманецца, пасьля ўсёй гэтай экзотыкі дома, у Сусе, захочацца трошкі Эўропы і ты выправісься ў дыскатэку з падазронаю назваю "Самара" (зрэшты, гэтаксама завецца і твой гатэль) і там пазнаёмісься з вышэйшаю за цябе на цэлую галаву танкляваю бляндыначкай, зь якой паспрабуеш гаварыць па-ангельску, але, высьветліўшы, што яе завуць не Элізабэт і не Мэрылін, а — Аўшра, што ў перакладзе зь літоўскае значыць "зара", пяройдзеш на расейскую, і вы вып'еце за Вільню і пад мэлёдыю "Каліфорніі" ты ўпершыню ў жыцьці будзеш танцаваць з такой высокаю жанчынай, а ўначы прысьніш прыгожы сон пра цырк і бялявую канатаходку, што ідзе на страшэннай высачыні, трымаючы ў зубах дзеля раўнавагі чырвоную ружу.

У параўнаньні з папярэднім наступны дзень будзе выглядаць пустым, як перакуленая яшчэ да нараджэньня Хрыстовага амфара.

На пляжы ты падставіш зімоваму тунісійскаму сонцу твар і, заплюшчыўшы вочы, лёгка ўявіш сябе на ліпенскай Нарачы, куды панаехала раптам немцаў і палякаў. А рэшту дня будзеш бадзяцца па крамах і крамках, яшчэ не падазраючы, што твае гаспадары зусім не выпадкова заплянавалі перад экспэдыцыяй у Сахару адзін-адзіны пункт праграмы — турэцкую лазьню.

У яе ты якраз і павінен прыйсьці пазбаўлены сьвежых уражаньняў і стамлёны цягліва доўгім днём. І тады там, у клубах густой і духмянай імбірна-гвазьдзіковае пары, уладкаваўшыся каля ружовага мармуровага фантанчыку на бледна-блакітным лежаку, які раз-пораз паліваюць гарачай вадою зь меднае балеі, ты пачуеш у сваёй крыві ўніклівы голас салодкае атруты Ўсходу. Атруты, якая калісьці спакваля трапіла ў жылы расейскіх маракоў імпэратарскага флёту, што ў 1920-м засталіся на гэтым узьбярэжжы і пабудавалі ў Тунісе і Бізэрце праваслаўныя храмы. Каля аднаго зь іх ты сустрэў учора красуню ў шчыгульных белых джынсах, у абліччы якой суладна зьліліся славянскія і ўсходнія рысы; яна вяла да царквы ярка-рудога хлопчыка ў матросцы і за штосьці ўшчувала яго па-арабску.

Атрыманыя ад Саміра на самым пачатку сафары інструкцыі табе будзе цяжкавата назваць натхняльнымі. У цябе наперадзе ноч у пастаўленым проста на пяску двухмясцовым намёце. На ўваходзе ў яго ніхто не зьбіраецца разглядваць твой пашпарт і змагацца за высокую маральнасьць, але — няма ў прыродзе дасканаласьці —ўсе выгоды такога начлегу перакрэсьліваюцца настойлівай парадаю: пасьля заходу сонца трымацца як мага бліжэй не да каго-небудзь яшчэ, а да вярблюдаў, бо пах іхняе мачы дзейнічае на сахарскіх зьмеяў і скарпіёнаў прыкладна так, як вянок часныку на тваіх родных эўрапейскіх вампіраў. Ты пякуча зайздросьціш Саміру: ён у кашабіі — белай сьвітцы зь вярблюджае воўны, што напэўна як сьлед вымачылі ў згаданым вышэй сродку, а на табе ўсяго толькі небясьпечныя белыя штаны з бавоўны.

Яшчэ адна рэкамэндацыя: здымаць (у сэнсе фатаграфаваць) спатканых у Сахары жанчын можна адно зь іхняе згоды; у адваротным выпадку ты створыш сабе рэальную магчымасьць пазнаёміцца з арыгінальнымі звычаямі некаторых плямёнаў.

Першы прыпынак надарыцца ў гарадку Эль Джэм, дзе нават вярблюды ганарацца цыклярічным амфітэатрам II ст. н.э. (150x125x36), які і сёньня мог бы пасадзіць на свае каменныя лавы 30 тысяч аматараў крывавых відовішчаў. У эль-джэмскім калізэі руіны Карфагену будуць успрымацца як нешта занядбана-правінцыйнае; такое ўражаньне пакінулі б, відаць, зьедзеныя карыесам часу зубы Крэўскага замку, калі паставіць іх побач з готыкай Міру. Аднак ты не

# Адказ Вэна Стэфэнсана

*Прачытаўшы кнігу Свэна Біркер ца "Гутэнбэргавы элегіі", пра якую "НН" піша ўжо ня першы раз, рэдактар інтэрнэтаўскага варыянту часопіса The Atlantic Monthly Вэн Стэфэнсан напісаў сваё эсэ — адказ на кнігу Біркерца. Упершыню гэты твор быў надрукаваны летась у часопісе Chicago Review, а нядаўна зьмешчаны ў Інтэрнэце сярод матэрыялаў дыскусіі на закранутую вышэй тэму. Адштурхнуўшыся ад кнігі, Вэн Стэфэнсан разважае ня толькі пра яе, але і пра іншыя публікацыі Біркерца.*

Вось перад маімі вачыма ляжыць старонка, а на ёй шрыфтам serif надрукаваны верш. Гэта напісаная Джонам Кітсам ў 1819 г. ода. Я павольна, выразна вымаўляючы кожнае слова, уголас прачытваю першыя радкі і слухаю музыку цудоўнай паэзіі. Я чытаю верш далей, спыняюся на некаторых строфах, фразах і рыфмах. Пасьля я вяртаюся назад і перачытваю нанова, раскладаючы і зноў складаючы строфы ў сябе ў галаве. Словы набываюць належны парадак, і я адчуваю, як іх рытм б'ецца недзе ў маіх грудзях, рэзануючы з чалавечым голасам, што гучыць у задуменнай цішыні.

Я паўтараю апошнія радкі верша — гэта эсэнцыя жыцьця, вымаўленая ў мастацкай форме — і тады нейкія пабочныя гукі скіроўваюць маю ўвагу да расчыненага вакна. Чарадзейства разьвеялася. Душным нядзельным вечарам я сяджу ў сваім офісе ў бруклінскім хмарачосе, а вільготны брыз з акіяну варушыць раскладзеныя на маім стале паперы. Я заўважаю гадзіньнік: з таго часу, як я сеў чытаць, мінула амаль пяць гадзінаў, падчас якіх я вандраваў па анталёгіі брытанскай паэзіі. А мне падалося, што мінула ўсяго некалькі хвілінаў. Калі я падымаюся, каб разьмяць цягліцы, я адчуваю, нібыта плыву —такое пачуцьцё я звычайна маю пасьля працяглага занурэньня ў літаратуру. Але вяртаецца рэальнасьць сьвету, і ягоная гравітацыя прыцягвае мяне назад да рэчаіснасьці. Шок ад вяртаньня з эфэмэрнага сьвету да рэальнага выклікае галавакружэньне і дэзарыентацыю ў прасторы. Я ўсё яшчэ ў сьвеце Кітсавых паэмаў. Альбо яны ўсярэдзіне мяне, што, між іншым, пацьвярджаецца больш частым чым звычайна пульсам.

Дзе я быў? Што адбылося з маім адчуваньнем часу і прасторы, што кіравала маёй сьвядомасьцю перад тым, як я адарваўся ад тэксту? Нешта адбылося, нешта злучыла мяне праз час і прастору зь іншай чалавечай істотай ды іншымі рэаліямі: я сустрэўся з мовай, якая ня мае ўзросту, застаецца сьвежай і ўзьдзейнічае невытлумачальна. Магчыма, са мной здарылася тое, што некаторыя называюць сапраўдным эстэтычным перажываньнем мастацтва паэзіі. Калі гэта так, то я зьведаў яго праз лічбавыя каналы Інтэрнэту, прагартаўшы віртуальныя "старонкі" "сусьветнага навучыньня", якія несьліся на мой манітор фірмы Sony с хуткасьцю 28000 бітаў у сэкунду.

Калі імітацыя ёсьць самай шчырай формай лісьлівасьці, тады, я спадзяюся, Свэн Біркерц успрыме наступныя абзацы не як напад, а як камплімэнт. Ягоны зборнік эсэ "Гутэнбэргавы элегіі. Лёс чытаньня ў электронную эпоху" — адна з найбольш прыкметных, правакацыйных, зваблівых і расчаравальных кніг, зь якімі я толькі сутыкаўся за апошні час. Кніга, дзе размова вядзецца пра гэтак званую "онлайнавую (што мае дачыненьне да наўпроставага кампутарнага "этэру" Ін-

# ПЯЦЬ ТРУПАЎ У БАСЭЙНЕ

пасьпееш пранікнуцца антычнаю веліччу, бо з шчыліны паміж каменнымі блёкамі на цябе ўважліва паглядзіць першы вястун незьлічоных сахарскіх скарпіёнаў, і ты пачнеш з асабліва цёплым пачуцьцём думаць пра вярблюдаў і асабліва пра цудадзейную мачу.

На ўезьдзе ў колішні фінікійскі порт Габэс тваю трывожную дрымоту парушыць Самірава паведамленьне пра пяцізоркавы гатэль. Падняўшы павекі, ты ўбачыш пры дарозе велічэзны лягер з вартаўнічымі вышкамі, кулямётамі і астатнімі атрыбутамі "зоны" ўлучна з могілкамі, на якіх працягвае адбываць пакараньне прах зьняволеных. (Ты ўжо будзеш ведаць, чаму Самір пасьля зьяўленьня ў Тунісе сьвята 7 лістапада вучыўся ў Кіеве).

Краявід цудоўна дапоўняць дзясяткі дотаў, дзе паўстагодзьдзя таму пісалі чульлівыя лісты дадому жаўнеры вэрмахту, што, як і ты, баяліся скарпіёнаў і марылі аб белатварых прыгажунях далёкае радзімы.

Пасьля Габэсу алівы зьнікнуць і ты пачуеш выразнае дыханьне найвялікшае пустыні сьвету.

Гэта таксама будзе Туніс, але ўжо зусім іншая краіна. Тут, у адрозьненьне ад шыіцкае поўначы, жывуць суніты, і жанчыны ходзяць у чорным. Тут усьлед за бэрбэрскаю вёскай міражом мільгане абсалютна пазбаўлены зеляніны гарадок, населены аднымі мурынамі вугальна-чорнага суданскага тыпу. Тут перахопленыя позіркі тубыльцаў вельмі часта нават з нацяжкаю не назавеш прыязнымі.

Уяўляючы Сахару суцэльным пяском з выдмамі, ты, як заззычай, памылісься. Тутэйшая яе частка гарыстая і складаецца выключна з каменя. Сталіца гэтых мясьцінаў Матмата непадобная, бадай, ні на адзін горад Старога і Новага сьветаў. Некалькі тысяч ейных насельнікаў спрадвеку жывуць у выдлубаных у скалах пячорах. "Хату" сярэдняга матматаўца можна вылічыць па тэлеантэне, навязанаму вярблюду ці аўтамабілю. Над глінабітнаю выгбаю ўваходу цябе абавязкова прывітае намаляваная сіняю фарбай рука – ад сурокаў. Не абстаўляючы ласку невыканальнымі ўмовамі, пячорныя жыхары дазволяць табе зазірнуць у свае апартамэнты. Зморшчаны, як перапечаны яблык, твар бабулі Фацімы расплывецца ў бяззубай усьмешцы. Не, колькі ёй гадоў, яна ня ведае. Можа, сто, жвава круцячы жорны, прызнаецца падобная да Бабы Ягі гаспадыня, а можа, і трыста. Калі трыста, дык бабуліна ўнучка, што гатуе на газе "кус-кус" у пячоры-кухні, "пацягне" гадоў на 150-200, але яшчэ вельмі і вельмі, як сказаў бы адзін жывы беларускі клясык, "варта гжэху".

Зловіш сябе на жаданьні папрасіць напіцца, ды адразу ўспомніш, што ты ў Сахары, якая ўжо выпіла ўсю ваду ў прыбіральні суседняга гатэлю "Траглядыт". (На колькасьць мухаў у рэстаране гэтая акалічнасьць прыкметна не паўплывае).

За Матматай горы паніжэюць, і пустэльня пачне нагадваць велічэзны статак вярблюдаў, які ўкленчыў абапал дарогі да самага далягляду. Дзякуючы Саміру ты ўжо засвоіш процьму гранічна неабходных у гэтым навакольлі зьвестак. Напрыклад, ты будзеш гатовы беспамылкова адказаць на пытаньне, колькі месцаў доўжыцца ў вярблюдзіцы цяжарнасьць і зь якой хуткасьцю бяжыць драмадэр. Ты будзеш уражаны тым, што даўжыня ягонага фаласу дасягае 1,3 мэтра, але, нягледзячы на гэта, ён, драмадэр, мае звычку пасьля сьмерці гаспадара разьбіваць галаву аб камень...



Плынь інфармацыі перапыніцца на паліцэйскім посьце. Падхорцісты аўтаінспэктар запросіць кіроўцу Алі прайсьці ў сваю "кропку", адкуль ён вернецца, несучы пад пахаю папяровы скрутак. З асьмяглых вуснаў Алі будуць зьлятаць зусім ня словы малітвы. Самір стаічна патлумачыць, што перад Новым годам паліцыя клапоціцца, каб кіроўцы не засталіся без насьценных календароў з партрэтамі прэзыдэнта.

Чым глыбей шаша будзе ўгрызацца ў гарачае цела Сахары, тым меней убачыш у рэдкіх аазысах надпісаў па-француску і тым болей — лагодных усьмешак Бэн Алі і чырвоных сьцягоў з зоркай і паўмесяцам. На адну мячэць на ўсьцеху электарату будуць налепленыя ажно дваццаць два ўсенародна абраныя. Дваццаць трэці будзе вісець на прапускным пункце яшчэ аднаго пяцізоркавага гатэлю за калючым дротам.

На гэтых паралелях горадам у Афрыцы лічыцца ўжо любое паселішча з сотняй-другой жыхароў. Дуз — брама ў клясычную Сахару. Адсюль ты паедзеш вершкі.

Касавурачы на цябе вялікае рахманае вока, твой вярблюд спачатку падымецца на заднія ногі, потым выпрастаецца і возьме курс на сонца, якое хутка коціцца за барханы. Ён будзе разьмерана ставіць ногі ў тонкі, як пытляваная мука, пясок і мэлянхалічна жаваць схопленую мяккімі губамі калючку. Асядланая табою жывёліна будзе надзіва спакойнаю і, відаць, з гэтае прычыны не заслужыць уласнага імя. Пагоншчык Насыр скажа, што твайго вярблюда завуць проста вярблюдам, ці, па-тутэйшаму, кямалем.

Знаёмы з фотаздымкаў і фільмаў рафінаваны сахарскі краявід, што разьлягаецца перад табою, зьнячэўку парушыць падсмажаны сонцам да шакалядавага колеру маладзён, які выйдзе з памаранчавым плястыкавым вядром з-за бліжэйшае выдмы. У вядры асьвяжаюцца бутэлечкі з колай, якую Самір забараніў табе піць гэтаксама катэгарычна, як і есьці плады кактусаў. Неўзабаве колькасьць маладзёнаў зь вёдрамі зраўняецца з колькасьцю вярблюдаў.

Так, усё больш націраючы тое месца, дзе сьпіна губляе сваё гордае найменьне, ты і будзеш вандраваць сярод зьвечарэлых барханаў насустрач невыказна прыемнаму адкрыцьцю, што сёньняшнюю ноч табе наканавана бавіць не ў намёце пад аховаю паху вярблюджае мачы, а ў вельмі прыстойным гатэлі гораду Эль Флавуар, дзе жывуць пяць сотняў людзей і прыкладна столькі ж вярблюдаў.

У гатэлі будзе міжнародны тэлефон-аўтамат, і парцье, якога ты навучыш казаць "калі ласка" і "дабранач", знойдзе табе код невядомае яму датуль Беларусі: 011-375. Калі табе ня будзе шкада дынараў, ты зможаш патэлефанаваць у Менск ці ў Полацак і паведаміць, што п'еш зараз чырвонае віно ў Сахары, у гарадку, дзе абрываецца дарога і на сотні кілямэтраў на поўдзень цягнецца толькі пясок, прастора зэро, населеная міражамі і таямнічымі істотамі кшталту крылатых драмадэраў і белых шакалаў з чалавечымі вачыма. Чарнаскуры парцье будзе апавядаць табе пра занесеныя пяском і населеныя прывідамі аазысы, пра сваю леташнюю паездку ў Парыж і пра жыхароў пустыні, якія, убачыўшы ў руках у госьця пушку запалак, просяць зрабіць ім такую самую і найвялікшым дзівам лічаць існаваньне дзьвюх абсалютна аднолькавых газэтаў ці цыгарэтных пачкаў.

Старанна падбіраючы ангельскія словы, гэты сын ускраіны цывілізацыі будзе казаць штосьці яшчэ, і ты — мо таму, што за плячыма ў твайго візаві няма звыклага партрэту — прасякнесься да яго глыбокай чалавечай сымпатыяй, але ягоныя словы ўжо ня будуць дасягаць твае сьвядомасьці. Табе захочацца выйсьці ў сахарскую ноч, апусьціцца, забыўшыся на зьмеяў і скарпіёнаў, на цёплы пясок і падумаць пра тое, што кожнае тваё падарожжа неўпрыкмет ператвараецца ў паломніцтва да той краіны, якая і ёсьць сапраўднай фата-марганай, бо матэрыялізуецца адно тады, калі ты пакідаеш яе, і зьнікае, растае ў паветры, як толькі ты вяртаесься.

Але перад вяртаньнем у цябе яшчэ застанецца даўжэзны заўтрашні дзень, які пачнецца ўсходам сонца пасярод сухога салёнага возера Шот эль Джэрыд. Потым вузкая стужка шашы прывядзе ў аазыс Тазэр: бэтонны сфінкс у паранджы каля дарожнага ўказальніка; зьвярынец са скарпіёнкаю Маргарытай і саламандрамі Рамэо і Джульетай; фатаграфаваньне за 1 дынар зь нібыта самым высокім чалавекам плянэты (2 м 34 см), які мае схільнасьць да славянак, у зьвязку з чым зьезьдзіў у Маскву, дзе адразу сем фотамадэляў далі згоду выйсьці за яго замуж; парк атракцыёнаў "1000 і 1 ноч", дзе найбольш арыгінальным табе падасца пакой, у якім з натужным пуканьнем намагаюцца выбрацца на волю замураваныя ў цесных гляках джыны.

У апошняй кропцы сафары, горадзе трохсот мячэцяў Кайруане, які называюць Мэккаю Магрыбу, табе засьвярбіць сфатаграфавацца з гаспадаром дывановае крамы, і ён ветліва падвядзе цябе да атаманкі пад партрэтам Бэн Алі на тле чырвонага сьцягу.

Гаспадару гэтага царства дываноў ня трэба будзе тлумачыць, што такое Беларусь. "Мінск. Чернобыл. Лукаш'енка!" – узрадавана загалёкае ён і прапануе набыць любы тавар за палову кошту. І калі ты не захочаш разьвітацца з дынарамі, ён ані не зазлуе, а з такой самай пярлінаваю ўсьмешкаю ад вуха да вуха ўсьцешана паўторыць: "Чернобыл. Лукаш'енка" і тыцне табе ў жывот свой палец, як быццам "Лукаш'енка" – гэта ты.

У аэрапорце ты зноў адчуеш дотык ягонага вострага пальца з залатым пярсьцёнкам, і тваім апошнім афрыканскім уражаньнем застанецца цёплы позірк брывастага тунісійскага бацькі.

Пяць трупаў у басэйне?

Іх не было. Бо калі бацька абвясьціў лідэраў палітычных партыяў тэрарыстамі і ворагамі народу, тыя, перайшоўшы на нелегальнае становішча, пасьпелі эміграваць.

Алах акбар, і няхай доўжыць ён на зямлі цень таго, хто ідзе шляхам праведнікаў, — сьпявае пасярод Сахары твой знаёмы эльфлавуарскі муэддын, і ты можаш не ўдакладняць, каго ён мае на ўвазе.

*сьнежань, 1996*

# Свэну Біркерцу

тэрнэту — У.Б.) рэвалюцыю”, зрабілася самай гучнай літаратурнай падзеяй 1994 г., пра якую вядзецца мноства размоў. Але не павінна быць ніякай таямніцы наконт яе скандальнай вядомасьці. Мы жывем у час, калі тэма Інтэрнэту як новага сродку перадачы інфармацыі прысутнічае ўсюды, куды вы толькі ні кінеце позірк, на вокладках і ў загалоўках кожнага друкаванага выданьня, якія, як кажуць, выцясьняюцца гэтым новым сродкам інфармацыі. Біркерц выбраў самы прыдатны час, каб трапна і часта вельмі пераканальна націснуць на патаемныя апасеньні многіх прадстаўнікоў нашай постмадэрнісцкай літаратуры. Стратэгія простая і нават бліскучая: выявіць адносіны паміж чытачом і ўяўным тэкстам у час, калі сур’ёзная літаратура маргіналізуецца камунікацыйнымі тэхналёгіямі, якія трансфармуюць сродкі масавай інфармацыі і масавай культуры.

Я зьяўляюся адным з тае колькасьці людзей, чыя адна нага стаіць у сьвеце традыцыйнага літаратурнага выдавецтва, а другая — чнай думкі і зьместу. “Тое, што нясуць правады — ня йдзе ад душы”, — сказаў Біркерц у жніўні 1995 г. на форуме пісьменьнікаў, арганізаваным выдавецтвам Нагрег. Пераляканы тым, што ён называе “паўзучай пустэчай”, Біркерц у іншым кантэксьце скардзіцца: “Калі б мяне пераканалі, што Інтэрнэт і ягоныя карыстальнікі імкнуцца да сапраўднай глыбіні, імкнуцца да рэчаў, якіх трэба ў першую чаргу шукаць у цішы, у трапятаньні, у цярпліва выпрацаванай мове, тады б я адкрыў сваё сэрца. Але гэтага я папросту ня бачу”. Цікава, што гэтыя словы Біркерц сказаў падчас он-лайнавай гутаркі з Інтэрнэтаўскай аўдыторыяй (гл. мінулы нумар “НН” — У.Б.). Мне, як супрацоўніку “пустое” кібэрпрасторы, застаецца толькі запытацца: ці мушу я ўспрымаць гэта як папярэджаньне ці як абразу?



Біркерц ня проста болей чым пэсымістычна настроены наконт пэрспэктываў сур’ёзнай літаратуры ў кібэрпрасторы — ягоныя кепскія прадчуваньні сягаюць далёка за рамкі крытычнага скептыцызму адносна новых формаў літаратурнай дзейнасьці, што пачынаюць разьвівацца ў “сусьветным павучыньні” (World Wide Web) ды розных іншых мультымэдыйных праявах. З асаблівай сілай гэтая тэма гучыць у “Гутэнбэргавых элегіях”. Хоць Біркерц і ня першы з тых, хто за апошнія гады пачаў бачыць “татальную мэтамарфозу” нашай культуры пад уплывам камунікацыйных тэхналёгіяў, ягоная пазыцыя адносна іх узьдзеяньня на літаратуру і наступстваў для заходняй культуры, паверце мне, зьяўляецца радыкальнай. Ён піша: “Раптоўна адчуваеш, нібыта ўсё пачынае мяняцца... Стабільная ерархія друкаваных старонак парушаецца навалай электронных імпульсаў з кампутарных сетак. Замена старонкі экранам пакуль што яшчэ не татальная... Але, жывучы пасярод сьмерчу незьлічоных кампутарных павучыньняў, мы можам сказаць, што цяперашнія зьмены ў сфэры друкаваных сродкаў сьведчаць пра непазьбежнасьць такога канца”.

Паводле Біркерца атрымліваецца, што друкаваная старонка аказалася зацягнутай сьмяротным сьмерчам пераменаў. Падрываецца і разбураецца ня толькі “калісьці стабільная сыстэма” літаратурнага выдавецтва, але “па меры таго, як электронныя сродкі камунікаваньня пачынаюць дамінаваць, і мадыфікуецца сама друкаваная кніга і ўсё, што мае да яе дачыненьне — пісаньне і чытаньне, мяняецца і само “адчуваньне” прыналежнасьці да літаратуры”. Біркерц прыходзіць да высновы, што “трэба сур’ёзна задумацца наконт нашых гуманістычных каштоўнасьцяў, наконт духоўнага аспэкту жыцьця, які супрацьстаіць матэрыяльнаму. Відавочна, што гутарка ідзе больш чым пра лёс традыцыйнай выдавецкай справы. Перад Біркерцам ніколі і не стаяла пытаньне пра тое, што лепш: атрымліваць матэрыял для чытаньня зь Інтэрнэту ці набываць у кнігарні. Яго больш хвалюе тое, які вопыт мы выносім з самога працэсу чытаньня: “Я кажу як сапраўдны (у адрозьненьне ад рэнэгатаў) чытач, які ўсё яшчэ верыць, што мова, а не тэхналёгія ёсьць сапраўдным цудам эвалюцыі... што ў сустрэчы з словам існуе глыбіня... і што з шэрагу прычынаў друкаваная кніга ёсьць ідэальным сродкам для перадачы напісанага слова”. У сваім шанаваньні друкаванага слова Біркерц набліжаецца амаль да рэлігійнага пакланеньня: кніга — сьвяты прадмет, старонка — фэтыш, і ўсё, што яна ўтрымлівае, — сакральнае.

Няма нічога дзіўнага ў тым, што слова, выдрукаванае на старонцы,

Працяг на старонцы 14.

# ЭНЦЫКЛЯПЭДЫЯ “ГРОЛЕР”




Калі Вам трэба падабраць кампутарную энцыкляпэдыю, якая будзе патрэбная болей для працы, чым для забавы, з грунтоўнай інфармацыяй і эфэктыўнай сыстэмаю карыстаньня, я параю Вам “GROLIER Multimedia Encyclopedia”.

Ужо некалькі гадоў яна выдаецца як электронны аналяг сур’ёзнай 21-тамовай акадэмічнай Энцыкляпэдыі Гролера, якую, дарэчы, можна знайсьці і на паліцах нашай Нацыянальнай бібліятэкі. Яе кампутарны варыянт, сапраўды, на маю думку, ёсьць прыкладам удалага спалучэньня традыцыйнай кніжнай фундамэнтальнасьці і таго, што ёсьць лепшага ў мультымэдыйных прадуктах: даступнасьці, нагляднасьці, актуальнасьці, эфэктыўнасьці і прывабнасьці. Кожны год выдаецца абноўлены выпуск “Гролера”, і нядаўна у менскіх дылераў зьявіўся “Гролер-1997”, з самай апошняй, ужо практычна сёлетняй інфармацыяй пра падзеі і людзей. Маючы выданьні Гролера за 1995, 1996 і, нарэшце, за 97-ы гады, адзначу, што ў кожным ствaральнікі ня толькі проста аднаўляюць актуальную інфармацыю, але й адшукваюць новыя формы яе прэзэнтацыі, ствараючы штораз новы адмысловы варыянт. І хаця мне ўласна, дагэтуль падабаецца мой першы “Гролер-95”, я пазнаёмлю чытача менавіта з апошняй, найноўшай вэрсіяй.

Энцыкляпэдыя уключае каля 50.000 артыкулаў, блізка 900 мапаў, 15 гадзінаў гукавых фрагмэнтаў, шмат табліцаў, слайдаў, малюнкаў, відэа- і анімацыйных кліпаў. Уведзены асобны "том" інтэрактыўных матэрыялаў, дзе можна “разабраць” чалавечае цела, зазірнуць усярэдзіну “Spase Shuttle’a”, а асабліва цікавы разьдзел, прысьвечаны архітэктуры, — там прадстаўлены некалькі папулярных помнікаў з розных эпохаў, такіх, як Шартрскі сабор, піраміда Хеопса, нават Белы дом, у якім Вы маеце магчымасьць паглядзець, што там ёсьць на кожным з паверхаў, якая там абстаноўка і нават — дзе ў Клінтана спальня. У сярэднявечным замку можна параўнаць сучасны выгляд з сытуацыяй XII-га ст., паглядзець на яго з розных бакоў, зазірнуць у сярэдзіну галоўнай вежы, пагуляць з пад’ёмным мастом і нават "выклікаць" аблогу з рознымі баявымі прыстасаваньнямі.

Але не карысныя забаўкі вабяць у Энцыкляпэдыі Гролера. Галоўнае ўсё ж — гэта сур’ёзныя, зробленыя на прыстойным навуковым узроўні артыкулы — тое, што адрозьнівае Гролера ад некаторых іншых падобных энцыкляпэдыяў, дзе за прыгожымі “прыбамбасамі” трапляеш на занадта прымітыўны, дзіцячы, альбо проста малаграматны тэкст. Прадуманая сыстэма гіпэртэксту, кампэтэнтныя аўтары, бібліяграфія — гэта сапраўды робіць энцыкляпэдыю добрым памочнікам у працы і штодзённым даведнікам ледзь не па любым пытаньні. Дарэчы, “Гролер” — адно зь нешматлікіх электронных выданьняў, дзе артыкул пра Беларусь у гістарычнай частцы больш менш адпавядае сапраўднасьці, бо аўтар спасылаецца на тэксты беларускіх Вітаўта і Зоры Кіпеляў.

Варты ўвагі інтэрфэйс энцыкляпэдыі. Радыкальна зьменены пасьля 1995 году, ён яшчэ больш удасканаліўся ў 1997-м. Цяпер гэта ўзор прастаты і практычнасьці. Ніякіх залішніх інструмэнтаў ці ўпрыгожаньняў, відэаэфэктаў, завываньня музыкі ці шматгалосага мармытаньня дыктараў. Экран проста падзелены на тры часткі: зьверху — шэсьць кнопак, якімі выбіраецца адпаведны тэматычны “том” энцыкляпэдыі. Гэтыя кнопкі — “Артыкулы”, “Галерэя”, дзе можна выбраць мэдыяфайлы, геаграфічны “Атляс”; “Timeline” — “страла часу”; “Guide Tourse” — “даведнік”, дзе па розных тэмах (Шэксьпір, Зброя, Сьвет інсэктаў, Пяцідзясятыя гады ды інш.) скампанаваныя тэксты і фота-, відэа-, гукавыя ды інш. ілюстрацыі, — такія ж “туры” можна скласьці самому — і, нарэшце, “Interactivities”, пра якія я ўжо згадваў. Пад кнопкамі разьмешчаныя як бы дзьве картатэчныя скрынкі — зь левага боку меншая, у якой адбываецца пошук неабходнага тэрміну ці назвы, з правага — большая, у якой мы знаходзім адпаведныя артыкулы і дадатковую інфармацыю. Выбраўшы, напрыклад, том “Артыкулы”, мы можам у левай скрынцы, "клікнуўшы" мышкай па рубрыкатары, выбраць "Прагляд" і прагартаць усе без разбору артыкулы энцыкляпэдыі. Але можна адабраць неабходную тэму з такіх, як Геаграфія, Гісторыя, Мова і Літаратура, Тэхналёгія, — усяго дзесяць, і гэта значна скароціць поле пошуку. Можна зрабіць па-іншаму і ў адпаведным ваконцы проста напісаць патрэбнае слова — яно выплыве з бясконцага альфабэтнага сьпісу. Рубрыка “Пошук” дае магчымасьць сабраць усе артыкулы, дзе згадваецца пэўнае слова.

Можна весьці пошук на “дрэве ведаў” — яго кнопка прыстасаваная ўнізе. Увогуле дрэва ведаў заслугоўвае асаблівай увагі. Яно мае шэсьць асноўных галінаў: геаграфія, гісторыя, навука, грамадзтва, тэхналёгія і мастацтва. Выбраўшы, скажам, “мастацтва”, пераходзім на наступныя галіны: камунікацыйныя мастацтвы, мова і літаратура, выканаўчыя мастацтвы, візуальныя мастацтвы. Выбярэм не зусім звычайны для нас тэрмін —"камунікацыйныя мастацтвы". Адкрываюцца такія дзьве субгаліны, як “кнігавыдавецтва і журналістыка”, “радыё і тэлевізія”. Першая падзяляецца на адзінаццаць “галінак” — “кніга і кніжная ілюстрацыя”, “асацыяцыі і ўзнагароды”, “газэты і пэрыёдыкі”, “журналісты” і г.д. На жаль, сярод газэтаў я не знайшоў пакуль "Нашае Нівы", і сярод 112 артыкулаў пра вядомых акулаў журналістыкі відавочна пераважаюць амэрыканцы. У прынцыпе, пошук практычна любога тэрміну плюс зьвязанай зь ім дадатковай інфармацыі займае некалькі сэкундаў. У правай “скрынцы” адкрываюцца знойдзеныя артыкулы. Там жа зьяўляюцца мэдыя-файлы. Шэсьць рубрыкатараў дазваляюць выбіраць паміж тэкстам, малюнкамі, іншымі мэдыямі, што злучаны з тэмаю, дадатковымі артыкуламі.

Зразумела, гэта далёка ня ўсё, чым можа пахваліцца “Grolier Multimedia Encyclopedia”, але варта дадаць хаця б тое, што без складанасьцяў можна перанесьці да сваіх файлаў, альбо перадрукаваць тэксты і малюнкі. З 1996 году ёсьць адмысловая сыстэма сувязі энцыкляпэдыі з “Інтэрнэтам”. Інсталяцыя “Гролера” таксама не патрабуе нічога, акрамя як мінімум 486 DX/33 працэсара на вашым кампутары, 2-х хуткаснага CD-ROM’a і 10 лішніх мэгабайтаў на вінчэстэры (лепш, вядома, калі ў Вас больш моцная сыстэма).

І, нарэшце, купляйце сабе Гролера і працуйце, альбо проста давайце нырца ў мора ведаў — не пашкадуеце!

**Вацлаў Арэшка**

# Адказ Вэна Стэфэнсана Свэну Біркерцу

Працяг са старонкі 13

стаецца для Біркерца апошняй надзеяй заходняй цывілізацыі. Для Біркерца на кон пастаўленая ні больш ні менш як традыцыя заходняга гуманізму, якая ўзыходзіць да Рэнэсансу, а сваімі каранямі сягае ажно да эліністычнай цывілізацыі. А кнігі зьяўляюцца захавальнікамі гэтай традыцыі. Усё трымаецца на падмурку друкавальнага станка. "Бо, па сутнасьці, уся нашая калектыўная гісторыя — душа нашага сацыяльнага цела — закадаваная ў друкаваным выглядзе, — піша Біркерц. — Калі чалавек адвернецца ад друку, што тады можа адбыцца з асобай у пляне культуры і пераемнасьці пакаленьняў?" Біркерц зьвяртае ўвагу на тое, што апавядальныя і сынтаксычныя формы, якія прапануюцца друкам, маюць лінейную структуру, у той час, як электронныя мэдыя (пачынаючы з урэзак у кінастужку, відэаэфэктаў і кліпаў і заканчваючы паралельнымі і тангенснымі рухамі гіпэртэкстаў) выступаюць супраць нашага традыцыйнага ўспрыманьня часу і хады гісторыі.

Такім чынам, заходняй культуры пагражаюць як новыя тэхналёгіі, так і інтэлектуальныя і мастацкія плыні, што, паводле Біркерца, зусім не выпадкова маюць дачыненьне да постмадэрнізму, бо паводле сваёй сутнасьці постмадэрнізм —гэта эстэтыка, якая адвяргае ідэю гістарычнай лініі часу, таксама як і прызнаньне культурнай ерархіі. Постмадэрніст маніпулюе сваімі стылістычнамі блёкамі ўсё адно як складнікамі канструктара Lego, робячы адвольныя камбінацыі з калісьці пасьлядоўных і разьмежаваных сфэраў высокага і масавага мастацтва. Такое камбінатарства цудоўна адлюстраванае ў асацыятыўнай дынаміцы электронных сродкаў інфармацыі. У намаляванай Біркерцам карціне постмадэрнісцкая "няўстрымная спасылка" на масавую культуру і пагарда да гістарычнай лініі часу цесна суадносяцца з падрывам "стабільных ерархіяў", на якіх грунтуюцца традыцыйныя апавядальныя гісторыі і раманы.



Біркерц адчувае, што заняпад друку непасрэдным чынам спрычыніўся да зацьменьня "сур'ёзнага" ці "літаратурнага" рамана як формы, што яднае культуру. Такое зацьменьне, што ёсьць непасрэдным вынікам разьвіцьця электроннай культуры за кошт друкаванай, азначае для Біркерца нешта іншае, як сьмерць самой літаратуры, ці, прынамсі, магчымасьць такой сьмерці.

Біркерц лямантуе пра непазьбежную страту індывідуальнасьці пасярод растучай "электроннай пляменнасьці (трыбалізму)", ці "жыцьця ў вульлі", і ён параўноўвае гэта з фаўставай дамовай з д'яблам, якая ўнутрана спустошыць нас як біялягічны від і нашую культуру. У нашым імкненьні да тэхналёгіі, якая трансфармуе нашу культуру, мы "прывучаем сябе да эрзацу бясьпекі глябальнай кампутарнай злучанасьці" і прыносім у ахвяру глыбіню зьместу. Мы аказаліся заблытанымі ў гэтым павучыньні, якое пастаянна пашыраецца, якое вычварна скажае нашыя акадэмічныя ўстановы. Нігілістычная "постмадэрнісцкая культура" зь яе "абсалютным рэлятывізмам", зь яе "шырокай тканінай канкурэнтных паміж сабой ізмаў" навязваецца нам праз сродкі масавай інфармацыі, фільмы і, як апасаецца Біркерц, цяпер яшчэ і праз Інтэрнэт. Біркерц заклікае працерці вочы і адпрэчыць ілюзіі, якія прапануе нам электронны Мэфістофэль: "Д'ябал больш ня ходзіць на раздвоеных капытах, распаўсюджваючы пах серы. Ён — прыязны, сучасны хлопец. Ён кажа, што хоча літаратуры, але прадстаўляе болей магчымасьцяў для інтэрактыўнасьці і стварэньня супольнасьцяў творчых розумаў, якія інакш проста не маглі б і ўзьнікнуць.

Што адбываецца, калі я чытаю ці слухаю вершы? І ці важна, як ён да мяне даходзіць: праз голас, праз кнігу, ці праз кампутар? Таму я загружаю ў кампутар вершы Хіршфільда і Хіні і раздрукоўваю іх на паперы, каб пачытаць у цягніку на шляху дадому.

**Падрыхтаваў Уладзімер Бараніч**

# Сто беларускіх кніг ХХ ст.

Як мы і абяцалі, на мяжы гадоў — новага і старога — мы публікуем першыя вынікі рэйтынгу "Ста кніг", які рэдакцыя праводзіць сярод чытачоў "Нашай Нівы". Пакуль што мы атрымалі ўсяго пяць лістоў, але гэтага аказалася дастаткова дзеля таго, каб пачаць фармаваньне нашага сьпісу.

Зразумела, далёка ня кожны чытач знойдзе час і ахвоту складаць даўжэразны пералік. Таму дзякуй тым пяці карэспандэнтам, якія выканалі пэўную чарнавую працу — Аляксею Колчыну з Магілёва, Алегу Атрушкевічу і Зьміцеру Цехановічу зь Менску, Кастусю Есеву зь Віцебску і Ананіму зь Вільні.

Сп. Цехановіч згадвае ў сваім лісьце пэўныя мэтадалягічныя праблемы, зь якімі ён сутыкнуўся. На нашу думку, ня варта ўскладняць задачу. Цалкам інтуітыўна мы ўсе разумеем слова "кніга" ў кантэксьце прапанаванага сьпісу прыблізна аднолькава. Кніга тут — гэта тая цэласьць, якая супадае з творам ці нізкай твораў. Кніга як цэльны творчы акт, цэльная культурная зьява. Збор твораў Янкі Купалы, які адзначае Сп. Есеў, — гэта менавіта збор твораў як жанр, збор кніг, а ня кніга.

З "почырку" сьпісаў відаць, што і ствараліся яны па-рознаму. Сп. Атрушкевіч, напэўна, перапісваў 100 назваў кніг з сваёй хатняй паліцы. А Сп. Есеў працаваў, хутчэй за ўсё, зь пісьменьніцкім даведнікам, а ўрэшце ўключыў у сьпіс і яго, даведнік. Сп. Колчын склаў сьпіс з твораў сусьветнае літаратуры, куды трапілі толькі сем беларускіх кніг (мусіць, самых-самых). Сп. Цехановіч перабраў у колькасьці (аж 130 кніг), што аднак дазволіла пашырыць ужо вядомае кола кнігамі "першае велічыні".

Тое, што некаторых аўтараў называецца некалькі кніг, але ніводная зь іх ня згадваецца двойчы (напр., пяць кніг Чорнага), сьведчыць пра адсутнасьць літаратуразнаўчай інтэрпрэтацыі, якая мусіць крышталізаваць грамадзкія ўяўленьні, ствараць стэрэатыпы, — папулярызаваць.

Многія з названых кніг зьявіліся ў эпоху "перастройкі" і сталі сапраўдным адкрыцьцём (як напрыклад, "Кароткі нарыс гісторыі" Власта-Ластоўскага), хоць, як падкрэсьліваў сам аўтар, гэтая кніжка — першая спроба нацыянальнае гісторыі — толькі кампіляцыя з расейскіх ды польскіх кніг. А грунтоўная "Гісторыя крыўскай кнігі" таго ж аўтара згадваецца ўсяго два разы. Можна меркаваць, таму, што яна ў наш час не перавыдавалася.

Так ці інакш, а кожны проста называе СВАЕ кнігі, безь якіх яму было б цяжка або наўтульна, якія б ён "узяў з сабою на Марс". Пяцёра чалавек назвалі разам каля трохсот кніг 166-ці аўтараў (гэта акрамя энцыкляпэдыяў, календароў, Канстытуцыі РБ і падобнага). Тое, што шмат назваў не супадае, сьведчыць пра патэнцыяльныя магчымасьці і карысьць нашага рэйтынгу.

А вось і першыя вынікі.

Кнігі, якія называліся ўсімі карэспандэнтамі, ужо прэтэндуюць на тое, каб называцца кнігамі стагодзьдзя. Такіх кніг толькі дзьве. Гэта "Вянок" Максіма Багдановіча і "Беларуская граматыка для школ" Браніслава Тарашкевіча. Улічваючы суб'ектывізм нашага рэйтынгу, трэба побач з гэтымі кнігамі паставіць і тыя, якія згадваліся чатырма карэспандэнтамі:

*Ларыса Геніюш. Споведзь*
*Уладзімер Караткевіч. Дзікае паляваньне караля Стаха*
*Янка Купала. Жалейка*
*Вацлаў Ластоўскі. Кароткая гісторыя Беларусі*
*Генадзь Сагановіч. Невядомая вайна*
*Аркадзь Смоліч. Геаграфія Беларусі*

Кнігі, якія называліся тройчы, таксама, напэўна, застануцца ў канчатковым сьпісе. Вось яны:

*Францішак Аляхновіч. У кіпцюрах ГПУ*
*Натальля Арсеньнева. Пад сінім небам*
*Беларусь. Энцыкляпэдыя*
*Васіль Быкаў. Знак бяды*
*Юрка Віцьбіч. Плыве з-пад сьвятое гары Нёман*
*Максім Гарэцкі. Гісторыя беларускае літаратуры*
*Максім Гарэцкі. Рунь*
*Мікола Ермаловіч. Па сьлядах аднаго міта*
*Мікола Ермаловіч. Старажытная Беларусь*
*Усевалад Ігнатоўскі. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі*
*Уладзімер Караткевіч. Хрыстос прызямліўся ў Гародні*
*Якуб Колас. Новая Зямля*
*Янка Купала. Спадчына (Мюнхен)*
*Кастусь Тарасаў. Памяць пра легенды*
*Юры Туронак. Беларусь пад нямецкай акупацыяй*

Такім чынам мы ўжо вызначылі 23 са ста кніг ХХ ст. і маем вялізны сьпіс кніг-прэтэндэнтаў, месца якіх у рэйтынгу залежыць толькі ад Вас, нашых чытачоў. Вам ужо неабавязкова называць усе сто кніг. Вы можаце выказаць Вашую згоду або нязгоду з тым сьпісам, які надрукаваны сёньня, і прапанаваць свае дадатковыя пазыцыі. Зьвесткі будуць назапашвацца ў рэдакцыі і час ад часу мы будзем знаёміць Вас з тым, як адбываецца фармаваньне сьпісу. Чакаем Вашых лістоў з пазнакаю на капэрце "Сто кніг".

**Крыт.**

